PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 45 (2113) Год XLI Беласток 10 лістапада 1996 г. Цана 70 гр. (7 000 ст. зл.)

Ганна Кандрацюк

## Фестываль становіцца падзеяй

**Лукашэнку то помнік паставіць трэба, — гаварыла публіка на „Бардаўскай восені'96", — за тое, што натхніў так многа паэтаў і бардаў!**

Сапраўды, сучасная беларуская аўтарская песня прасякнута антыпрэзідэнцкімі матывамі. „Дон Лукас, наш Донжуан", — спяваў Дзміцер Бартосік, вядомы ўжо на Беласточчыне бард-журналіст. Шэдэўр Касі Камоцкай „Прэзідэнт ідзі дамоў" падхапіла зала. Патрыятычныя песні Сяржука Сокалава-Воюша і Андрэя Мельнікава ці не найбольш захапілі публіку. Патрыятычныя, нямодныя ўжо ў сучаснай аўтарскай песні матывы, добра прыстаюць да беларускай рэчаіснасці.

— Бо мы прыехалі з краіны, — гаварыў Андрэй Мельнікаў, лаўрэат Гран-пры сёлетняга мерапрыемства, — што адстае ад усяго свету.

Цікавая з'ява — гэта таксама вяртанне да тэматыкі, пачатай у дваццатыя, адраджэнскія гады. Міфалагічны фальклор натхніў Сяржука Мінскевіча, менскага журналіста „Культуры". Лявон Вольскі, саліст рок-гурту „Мроя" вярнуўся асацыяцыямі ў трыццатыя гады, каб у *Трылогіі* пра камуніста, крэсавага паляка ды сучасных іншадумцаў „Казіку ды Юзіку" адлюстраваць хісткі беларускі менталітэт.

Інакш выступалі бельскія барды. Дарафей Фіёнік, Альжбета Бэзюк праспявалі творы „белавежцаў". Эміялька Астапчук з Тамашом Лукашуком прапанавалі публіцы больш эстрадны, чым бардаўскі, рэпертуар.

### Узнагароджаныя барды

падабаліся не толькі журы, але і публіцы.

— Цешыць мяне, — сказаў Сакрат Яновіч, старшыня конкурснай камісіі, — што журы было з народам, а народ з журы.

Андрэй Мельнікаў, бясспрэчны прабліск сёлетняга фестывалю, заваражыў публіку лірычна-патрыятычнымі, добра і цікава выкананымі творамі.

— Да вас я ехаў шэсць гадоў, — гаварыў бард пра свае перыпетыі з пашпартам. На Беласточчыне існаваў ён як легенда. Хочацца верыць, што ягоныя песні і ў нас хутка стануць шырокавядомымі шэдэўрамі. Андрэй Мельнікаў сказаў, што спадзяваўся заваяваць у Бельску галоўны прыз. Бо і сапраўды не меў ён канкурэнцыі. Барды з яго вопытам і талентам выступаюць у нас ужо як госці-зоркі.

Згаданы ўжо Лявон Вольскі паказаў сябе непаўторным вакалістам. Чорны гумар, дарэчы, падыходзіць яго манеры.

Сяржук Мінскевіч, узнагароджаны прызам „Валілы—2", меў заахвочваць да новых пошукаў. Шкада толькі, што журы не праслухала мінулагодняга канцэрта, на якім С. Мінскевіч ужо бліснуў сваім *жахлівым* рэпертуарам.

Узнагарода бельскага беларускага ліцэя традыцыйна ўжо папалася вучням гэтай жа школы — Эмільцы Астапчук і Тамашу Лукашуку. Тут варта, аднак, адзначыць, што на ўзнагароду згаданыя ліцэісты сапраўды заслужылі. Хаця б за цікавыя, маладзёжныя тэксты.


*Цікавы лірычны талент — Дзміцер Вінаградаў з Гомеля.*


*Лявон Вольскі і Кася Камоцкая.*


*Гран-пры журы прысвоіла Андрэю Мельнікаву.*


*Легенда бардаўскай песні Сяржук Сокалаў-Воюш.*

### Бельскае мерапрыемства

арганізаванае Звязам беларускай моладзі, з кожным годам становіцца цікавейшай падзеяй. Сюды з'язджаюцца маладыя людзі з Гайнаўкі, Беластока, Беларусі, Варшавы.

— У гэтым годзе былі ўжо тры аўтобусы з Гайнаўкі, — гаварылі ліцэісты Гайнаўскага беларускага ліцэя. Адгуль было якраз найбольш слухачоў. І самае радаснае — ведаюць яны творчасць сурodзічаў з Беларусі. Несумненна, дзякуючы ім у зале панавала добрая атмасфера. Дарэчы, і сцэнічнае афармленне — каляровае восеньскае лісце,

(працяг на стар. 9)

Ян Максімюк

## Беларусь у пошуках свайго месца

**Звыш двухгадовы перыяд прэзідэнтуры Аляксандра Лукашэнкі ў Беларусі пазбавіў шмат каго са свядомых беларусаў спадзяванняў і ілюзій наконт перспектывы г.зв. беларускага адраджэння дый лёсу беларускага этнасу ў агульнасці. Узнёсласць і нават пэўная нацыянальная эйфарыя пачатку 90-х змяніліся песімізмам, маразмам і нярэдка адчаем у эпоху Аляксандра Рыгоравіча. Настрой прыкметна папсаваўся і ў нашага Сакрата Яновіча, які стаў публічна варажыць знікненне беларушчыны *там* і гібрыдызацыю нацыянальнага пачуцця нашай мяншыні *тут*, з адначасовай ейнай сепарацыяй ад *тамтэйшых* у бадай ці не найменшую нацыю Еўропы. Я маю на ўвазе Сакратаў тэкст „Беларусы ў Польшчы — нацыянальная мяншыня ці малая нацыя Еўропы?", які ён прачытаў *там* і апублікаваў *тут* („Ніва" ад 20 кастрычніка 1996 г.). Дадзеныя разважанні можна патрактаваць як палеміку з Сакратам; у кожным разе, мае высновы дакладна супрацьстаўныя аднаму з ягоных двух апорных тэзісаў у вышменаваным дакладзе.**

Безумоўна, 14 мая 1995 года, дзень першага лукашэнкаўскага рэферэндуму, стаў сімвалічным канцом найноўшага беларускага адраджэння, што пачалося ў 1989 г. разам з раскрыццём праўды аб Курапатах і стварэннем Беларускага народнага фронту ды іншых нацыянальных суполак. Усяго пяць гадоў (калі дапусціць пэўную нацяжку дзеля закругленасці) трывалі дзяржаўнае апекаванне беларушчыны і спроба надання беларускай мове нечага большага за фальклорны статус. Фармальна глянуўшы на колькасць праведзеных „беларускіх мерапрыемстваў" і колькасць вартасных беларускіх выданняў, што выйшлі ў тым перыядзе, можна зрабіць выснову аб вялікім патэнцыяле беларускага адраджэння і ўвогуле неблагой нацыянальнай трывучасці беларусаў. У сапраўднасці, як надта добра ведаем, народ за адзін дзень скасаваў і нацыянальныя сімвалы таго адраджэння, і ягоную самую істотную мэту — учыніць беларускую мову поўнавартасным сродкам нацыянальнай камунікацыі.

Гнятлівае адчуванне нацыянальнай ганьбы наогул не дазволіла беларускім каментатарам цвяроза ацаніць другога фенаменальнага здзяйснення ў тым рэферэндуме. Адзін мільён беларусаў выказаўся не толькі супроць лукашэнкаўскіх сімвалаў, ён выказаўся *супроць інтэграцыі з Расеяй* або, кажучы інакш, *за неза-*

(працяг на стар. 4)

# Мы прачыталі

*Polacy są ostatnio przyziemni, chamscy, brutalni, naszą narodową namiętność do zarabiania forsy, kulturę traktuje się u nas lekceważąco, niekiedy nawet z pogardą, świat wartości wydaje się ludziom anachroniczny lub zgoła umarły,* — піша Анджэй Шчыпёрскі.

*Wprost, nr 42*

* * *

*Losy mniejszości zależą od stosunku większości. Choć powinniśmy się starać, to i tak o wszystkim będą decydować bracia Polacy, których cenimy, szanujemy i czasem trochę się boimy, — stwierdził białoruski pisarz Sokrat Janowicz podczas III Spotkań Mniejszości Narodowych w Puńsku...*

*W ocenie mniejszości białoruskiej w galopującym tempie odbywa się „podążanie chama do polskiego raju”. W opinii Leona Tarasewicza Białorusini nie powinni mieć kompleksów. Mają już swoich artystów, ludzi u władzy. Wszyscy pracują na rzecz tego kraju, w którym mieszkają i mają prawo żądać czegoś w zamian. — Nie chcę żyć w białostockim rezerwacie. Daję swój talent, wzbogacam kulturę polską i żądam szacunku.*

*Kurier Poranny, nr 247*

„Людзьмі звацца”.

* * *

*Wśród gości Ogólnobiałoruskiego Zgromadzenia Ludowego, zwołanego w Mińsku w dniach 19—20 października przez prezydenta Łukaszenkę był Jan Syczewski, przewodniczący BTSK. Łukaszenka przywitał Syczewskiego jak przedstawiciela białoruskiej mniejszości w Polsce.*

*Kurier Podlaski, nr 205*

Господин президент, председатель Белорусского общественно-культурного товарищества Ян Сычевский не является представителем всего белорусского общества в Польше!

* * *

*Прэзідэнт Лукашэнка выступіў перад сваім электаратам у майцы і трусах. Прэзідэнт не кожнай краіны можа сёння пацвердзіць добра вядомы прынцып: у здаровым целе — здаровы дух,* — піша прэзідэнцкая газета

*Звязда, н-р 250*

З гэтай прычыны асабліва цешацца ўсе „женщины”.

* * *

*Господь за Президента. Недавно по белорусскому радио выступил помощник Патриаршего Экзарха всея Беларуси адвокат Валерий Ерчак и обратил внимание на факт мироточения в Минске Державной иконы Богородицы, и именно в Беларуси. Это является по мнению Валерия Ерчака, небесным знаком, что именно с нашей республики должно начаться возрождение триединой Руси. Поэтому верующие Белоруси, должны поддержать своего Президента на референдуме.*

*Народная газета, н-р 265*

* * *

*Leszek Miller: Ministrantura bardzo mi imponowała: stałem w kościele wypełnionym ludźmi, wszyscy na mnie patrzyli, czułem się ważny. Sprawiałem przyjemność nie tylko Bogu, ale przede wszystkim swojej rodzinie.*

*Kurier Poranny, nr 244*

Амаль усе палітыкі СЛД пачыналі кар'еру з „міністранта”. Шкада, што нашым „прыслужнікам” так не пашанцавала.

* * *

*Gdy podczas wizyty Michaiła Czyhira i Włodzimierza Cimoszewicza w Kleszczelach tłumacz premiera Białorusi chciał tłumaczyć jego słowa, ktoś z tłumu mówił, że nie trzeba; „my swoi — ruscy” — mówi staruszka w kraciastej chustce, która przyszła mimo wykopkowej pory zobaczyć, jak mówi, „naszoho Cimoszewicza”,* — піша

*Gazeta Tygodniowa, nr 15*

Пасля тры ночы бабулька не спала. Так была ачаравана непасрэдным кантактам з „нашым прэм'ерам Цімашэвічам”.

* * *

*Ministerstwo Zdrowia odmówiło nam odpowiedzi na proste pytanie: ile jest kurew wśród pań, które dostały doktorat z seksuologii? Pytanie to było ważne ponieważ, Kościół kat. twierdzi, że nauczanie w szkołach o seksie to hodowanie prostytutek. Znaczyłoby to, że kurwienie się wymaga teoretycznego przygotowania. Wśród kurew nie powinno być analfabetek, tylko doktorki. Być może uczenie się na lekcjach chemii o zjawisku fermentacji jest źródłem pijaństwa polskiego społeczeństwa,* — піша Ежы Урбан.

*Nie, nr 42*

* * *

*Niedawno minęła dwudziesta rocznica wprowadzenia kartek na cukier. Przez te lata wiele się w Polsce zmieniło, ale cukier pozostaje towarem specjalnym, którym rządzą bardziej prawa polityki niż ekonomii. Im wyższa produkcja, tym wyższe ceny na rynku krajowym, tym wyższe dopłaty do eksportu i rosnące straty cukrowni. Od dwóch lat, odkąd uchwalono ustawę cukrową, nic nie zdrożało bardziej niż cukier. Posłowie koalicji, twórcy ustawy cukrowej, wprowadzili ceny minimalne, gwarantujące opłacalność produkcji, zmusili konsumentów krajowych by dotowali nieopłacalny eksport, przez sztucznie zawyżoną cenę na rynku wewnętrznym. Jeżeli któraś cukrownia sprzeda taniej niż przewiduje cena minimalna — zostanie ukarana opłatą w wysokości stu procent wartości sprzedanego cukru.*

*Polityka, nr 42*

# З мінулага тыдня

**Станіслаў Шушкевіч** — былы спікер Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, які прабываў у Варшаве па запрашэнні Уніі вольнасці, сустрэўся з журналістамі, а затым з пасламі Сейма — членамі польска-беларускай парламенцкай групы. У апошнім спатканні ўдзельнічалі **Эва Спыхальска** — кандыдатка на пасла РП у Беларусі, і былая пасол РП у Менску праф. **Альжбета Смулкова**. Беларускі госць абвінаваціў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у імкненні да ўстанаўлення дыктатуры. Доказам гэтаму з'яўляецца прэзідэнцкая ініцыятыва ўвядзення змяненняў у канстытуцыю, у выніку якіх рашуча пашырацца паўнамоцтвы прэзідэнта за кошт парламента. Экс-спікер мяркуе, што калі вынікі рэферэндуму не будуць сфальшаваны, большасць грамадства не падтрымае прэзідэнта.

**Чарнобыльская атамная электрастанцыя** ўступае ў перыяд ліквідацыі. Як паведаміў міністр аховы асяроддзя Украіны **Юрый Кастэнка**, з канцом лістапада будзе закрыты першы рэактар. Згодна з палітычным рашэннем прэзідэнта Украіны **Леаніда Кучмы** Чарнобыльская АЭС — месца самай вялікай у гісторыі атамнай энергетыкі катастофы — спыніць сваю дзейнасць да 2000 года.

**Семяноўскае вадасховішча** і водная гаспадарка ў вадазборы верхняй Нарвы былі тэмай двухдзённай навукова-тэхнічнай канферэнцыі, якая адбылася ў Бандарах. З дакладамі выступілі спецыялісты па гідралогіі і прадстаўнікі службаў аховы навакольнага асяроддзя.

**Дэлегацыя беларускіх прадпрымальнікаў** пабывала ў Беластоку з гаспадарчай місіяй. Мэтай іх двухдзённай пабыўкі было наладжанне дзелавых кантактаў з фірмамі Беластоцкага ваяводства. У групе беларускіх бізнесменаў былі прадстаўнікі прыватных і дзяржаўных фірм — вытворцаў, між іншым, халадзільнікаў, ацяпляльных сістэм, тканін і цацак. Сваіх прадстаўнікоў мелі таксама энергетычная, хімічная, дрэваапрацоўчая і харчовая галіны прамысловасці.

**Пытанні аховы прыгранічнага рэгіёна** былі тэмай канферэнцыі, арганізаванай у Беластоку Таварыствам абаронных ведаў. Падпалкоўнік **Уладзімір Грыц**, намеснік каменданта Падляшскага аддзялення Пагранічнай аховы мяркуе, што праз некалькі гадоў Польшчу чакае хваля нелегальных імігрантаў, якія будуць спыняцца ў нашай краіне, каб атрымаць тут пастаяннае месцажыхарства (цяпер яны імкнуцца пранікнуць на Захад). Прадстаўнік пагранічнікаў заявіў, што ягоная ўстанова не бачыць канкрэтнай дзяржаўнай міграцыйнай палітыкі, паколькі на практыцы не выконваецца новы закон аб чужаземцах.

**Багдан Барусэвіч**, пасол Сейма ад Уніі вольнасці, пакрытыкаваў польскі ўрад і прэзідэнта **Аляксандра Квасноўскага** за тое, што яны мала цікавяцца справамі суседняй Беларусі. На яго думку, польская палітыка павінна быць там прысутнай і даваць зразумець, што толькі з дэмакратычнай і незалежнай Беларуссю можна падтрымоўваць дружалюбныя адносіны. Польшча павінна спрыяць Вярхоўнаму Савету РБ — апоры дэмакратыі ў гэтай дзяржаве.

**Суд у Беластоку** адтэрмінаваў разгляд справы супраць таварыскіх агенцтваў з прычыны знаходжання галоўнай абвінавачанай М. Т. у бальніцы. Ёй, як уласніцы нелегальнага агенцтва сексуальных паслуг, пракуратура ставіць закід у зводніцтве. М. Т. трымала таксама ў зняволенні грамадзянку Рэспублікі Беларусь, якую нейкі час прыкоўвала да каларыфера.

# Весткі з Беларусі

**Раскрываннe сутнасці**

Ініцыятыву прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі аб стварэнні ў цэнтры Еўропы бяз'ядзернай зоны не трэба разглядаць спрошчана як супрацьстаянне планам пашырэння НАТО на ўсход, — заявіў намеснік міністра замежных спраў Андрэй Саннікаў на сесіі Генеральнай Асамблеі ААН. Растлумачыў ён, што ініцыятыва Беларусі накіравана не на блакіраванне, а на пошук рашэнняў у плане стварэння агульнаеўрапейскай і міжнароднай бяспекі. У выступленні дыпламата магла адзначалася, што бяз'ядзерная прастора магла б грунтавацца на гарманічным спалучэнні юрыдычных і палітычных аднабаковых і шматбаковых абавязацельстваў дзяржаў.

**Паліўныя інвестыцыі**

Беларусь займае апошняе месца пасля Расеі, Украіны, Польшчы, Венгрыі, Чэхіі і Славакіі па памеры замежных інвестыцый у паліўна-энергетычным комплексе. Дзеля павелічэння прытоку інвестыцый у будучым годзе пры дапамозе адной французскай фірмы плануецца ўвесці ў строй пара-газавую электрастанцыю магутнасцю 63 мегават. Міністэрства паліўнай энергетыкі таксама мае намер выкарыстаць выгадныя і вельмі эфектыўныя новыя тэхналогіі такіх буйных фірмаў, як Siemens і General Elektric.

**Скандал у газеце**

„Народная газета” — калісьці орган Вярхоўнага Савета, а цяпер „нацыянальнае грамадска-палітычнае і парламенцкае выданне” — як і ўся дзяржаўная прэса, знаходзіцца пад строгім кантролем Адміністрацыі Прэзідэнта. Аднак назначанага прэзідэнцкім указам новага галоўнага рэдактара даваліся ўводзіць на рэдактарскае крэсла сілай. Нядаўна працоўны калектыў „Народнай газеты” назіраў візіт прадстаўнікоў праваахоўных органаў. Пасля непрацяглай размовы стары галоўны рэдактар газеты Леанід Юнчык быў вымушаны пакінуць пакой кіраўніка газеты.

**Дэмаркацыя мяжы**

Першая сустрэча змешанай камісіі па дэмаркацыі дзяржаўнай граніцы Літвы і Беларусі адбылася ў Ашмянах. На перамовах разгледжаны і зацверджаны нарматыўныя дакументы, звязаныя з абазначэннем дзяржаўнай граніцы на мясцовасці. Прынцыпы дэмаркацыі ўзгадняліся ў адпаведнасці з заключаным паміж двумя дзяржавамі дагаворам аб граніцы.

**Тры віды пашпартоў**

Выдача новых пашпартоў пачалася з Віцебшчыны. За адзін дзень іх змогуць атрымаць да тысячы грамадзян. Да 2001 года ў рэспубліцы будуць тры ўзоры пашпартоў: сярпаста-малаткасты, з выявай Пагоні і новы. З двума апошнімі жыць будзе прасцей, таму што можна выязджаць з імі за мяжу. У новым пашпарце адсутнічае графа нацыянальнасць.

**Ваенная інспекцыя**

22 кастрычніка ў Беларусь прыбыла чарговая ваенная інспекцыя па лініі дагавора аб звычайных узброеных сілах у Еўропе. Прадстаўнікі ўзброеных сіл Польшчы і Францыі інспектавалі артылерыйскі полк у брэсцкім гарнізоне.

**Газаправод Ямал—Еўропа**

Пад канец кастрычніка быў зроблены першы зварачны стык на газаправодзе Ямал—Еўропа недалёка ад старажытнага беларускага горада Слоніма. Гэты газапровод дасць магчымасць кожны год транспартаваць 60 млрд. $м^3$ блакітнага паліва з Расеі у Еўропу. На месцы першага стыку газапровода Ямал—Еўропа ўстаноўлены памятны знак.

**Новая структура БФК**

У Баранавічах адкрылася аддзяленне Беларускага фонду культуры. Праграмай дзейнасці баранавіцкіх энтузіястаў прадугледжана далучэнне жыхароў горада да набыткаў сусветнай і нацыянальнай культуры. Акрамя таго аддзяленне БФК будзе збіраць сродкі на аказанне дапамогі бібліятэкам горада, на будаўніцтва праваслаўнага храма, а таксама на штогадовую прэмію лепшаму настаўніку беларускай мовы.

**Наркатычныя кур'еры**

На пагранічнай з Беларуссю станцыі Суземка Бранскай вобласці канфіскавана чарговы груз наркотыкаў — 8 кг высушанай макавай саломкі. Наркур'ер быў затрыманы. А тыдзень раней на гэтай станцыі быў таксама арыштаваны кур'ер з такім жа грузам. Вядзецца расследаванне.

## Неўзабаве ў „Ніве”

- **Культурнае жыццё ў Бельску-Падляшскім** – размова Ады Чачугі з Дарафеем Фіёнікам.
- **Як праваслаўныя правялі дзень памерлых** – рэпартаж Алега Латышонка.

# Паляванне на лісу

**Ванька Дземідовіч прыйшоў на паліцыю ў дзесяць раніцы. Па дарозе, не парушаючы сваёй штодзённай прывычкі, асушыў бутэльку чарніла. Пратакол можна было зрабіць толькі пасля парудзённага цверазення ў арышце. Але і па-цвярозаму Ванька паўтараў тое самае: *Я думаў, што б'ю лісу.***

— Забіты Смятанка халерны злодзей быў, — гавораць людзі ў Мілейчычах. — Жыў самотна на хутары ў Паканеве, у збудаванай бацькамі хатцы, што хутчэй нагадвала хляўчук. На зіму заўсёды стараўся сесці ў цёплую турму.

Аднойчы ў сваёй вёсцы ўкраў ён запрэжанага каня. Воз быў поўны корму для жывёлы. У недалёкай Каянцы прадаў усё оптам: каня, калёсы і камбікорм.

На Дземідовіча суседзі не скардзяцца. Стары кавалер (1939 года нараджэння) жыве з 88-гадовай маці. Мае 24-гектарную гаспадарку, у час палявых работ наймае беспрацоўных. П'е кожны дзень.

Смятанка заходзіў да Дземідовіча часта. У абодвух былі падобныя скромныя застольныя густы — дэнатурат, розныя вынаходствы. Паводле прынцыпу: чым танней і мацней, тым лепш. У маі госць свіснуў у гаспадара матапілу. Праўда, паліцыя знайшла яе пасля некалькіх дзён у Мілейчычах і вярнула ўласніку. Вярнуўся з арышту таксама Смятанка і супольныя папойкі працягваліся. Адно старая маці прабавала разагнаць гэтае „каляжэнства".

Таго кастрычніцкага вечара Смятанка залез у куратнік, адкручваў галовы курам і запіхаў здабычу ў мяшок. Так і сядзеў з гэтым мяшком у куце, калі па яго прыехалі. Экспертыза паказала, што смерць была вынікам задаўлення „treścią żołądkową". Ваніты, тыповы сімптом зрушэння мазгоў. Калі б ён пасля ўдару ўпаў або хутчэй ім хто пацікавіўся, можа жыў бы.

— Маці вінаватая, — бярэцца за галаву Дземідовіч, — то яна выслала мяне пагглядзець, бо штосьць куры бярэ. Я ўзяў сякеру і пайшоў, думаў, што ліса, а во як выйшла.

Крыху раней сапраўды ліса прыбегла на яго панадворак. Пакусала суседскіх сабак. Калі яе затаўклі калом, выявілася, што была шалёная.

Яшчэ ўвечары Дземідовіч зайшоў да суседа, сказаў, што ў яго куратніку ліса і папрасіў, каб той патэлефанаваў на паліцыю.

— Звар'яцеў ён ці што, — расказвае сусед, — я буду клікаць паліцыянтаў на лісу, а яна пэўна будзе чакаць іхняга прыезду і спакойна дазволіць сябе арыштаваць. Каб ён сказаў, што там ляжыць чалавек... Ды тут, праз некалькі хатаў, жыве лекар. Чаму ён тады не пабег да яго?

За Дземідовіча брат заплаціў залог і яго выпусцілі. Цяпер толькі, да справы, мусіць штодзень яўляцца на паліцыю. Звычайна, нясе малако, выконвае свой абавязак і, па дарозе назад, напіваецца. Раз, вярнуўшыся, сеў на панадворку і талкаваў уголас сам з сабою: *Я каго схачу, таго магу забіць, хоць лісу, хоць сабаку...*

* * *

Дзесяць раніцы. За паваленай агароджай — немалая хата з чорных дылёў, без шалёўкі. Брама ці то вечна адчыненая, ці наогул яе няма. За хатай напаўразвалены нейкі дашчаны будан. Далей мураваная абора і драўляная клуня з адкрытымі насцеж дзвярыма. Ля аборы стаіць трактар без кабіны. Пад плотам — бульбакапалка і некалькі іншых паржавелых гаспадарчых прылад.

У хату трэба прайсці праз цёмныя сені, у якіх замест падлогі — ток. У кухні тупае ля пліты старэча. Акуляры з халоднага двара заходзяць парою, нічога не відаць. — *Ваньку вам трэба?* — чуваць ад печы. — *Пагглядзіце ў клуні.*

З аборы чуваць іржанне каня. Дзе можа быць гаспадар і ў якім ён стане? На ўсялякі выпадак яшчэ з панадворка даю *дзень добры*, але ніхто не адказвае. А дзе ж гэты куратнік? Відаць, куры побач іншае жывёлы, у аборы. Ніхто не адказвае на маё гучнае вітанне. У прыстаранку раптам зашалясцелі фольгавыя мяшкі — ад нечаканасці папабеглі па спіне дрыжыкі. А каб ты здаровы быў — кот!



Фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

Вяртаюся пад хату.

— І што, няма? — згорбленая, сухая бабулька таксама выйшла на двор. — А вы ў абору заглядалі? Трэба было галёкнуць яго.

Яна пару разоў кліча сына, але той не адзываецца. Запрашае ў хату. Па дарозе стогне:

— Ой, як цяжка жыць старому. Столькі работы ў гаспадарцы і ў полі, а я памагчы не магу. А маладзя цяпер не хочуць працаваць, цяжка наняць работніка. Лепш на *куранёўку* такі пойдзе і яшчэ грыбамі тысяч чатырыста, а цяпер трыста, бо дзень карацейшы, заробіць. І жыве бы паніска.

Падтакваю ейным нараканням. Раптам яна кажа:

— Пайду пагляджу, мо Ванька дзе спіць. — І сапраўды з-за дзвярэй пачулася: — Сынку, уставай, якісь пан да цябе. На, адзень нагавіцы. Ну ўстань, пагавары трохі.

Высокі, хваравіта худы мужчына доўга змагаўся са штанамі. *Зараз папросіць дакументы*, — становішча здалося мне нейкім знаёмым, калі ён набліжаўся, зашпіляючы гузікі. Ванька Дземідовіч агледзеў мой журналісцкі білет, пахістаўся, пагглядзеў на дзіру ў шкарпэтцы.

— А што тут казаць, — ледзь зразумела прашамяліў ён бяззубым ротам. — Будзе пісьмо з суда, тады і заходзьце.

Пастаяў ён яшчэ крыху:

— Мне цяжка гаварыць, я дзве ночы не спаў. Нашто мне гэта было. Людзі спатыкаюць мяне і дзякуюць, што ад такога зладзюгі іх выбавіў. А я цяпер мучуся.

**Мікола ВАЎРАНЮК**

*Імёны і прозвішчы персанажаў зменены.*

# Да ўвагі вывезеных на прымусовую працу ў час II сусветнай вайны

У Беластоку пачало працу Тэрытарыяльнае бюро Дэпартамента кампенсацый за прымусовую працу Ведамства па справах ветэранаў вайны і рэпрэсіраваных асоб.

У аўторак 22 кастрычніка 1996 г. у сядзібе бюро адбылася прэс-канферэнцыя з удзелам кіраўніка ведамства, міністра Адама Даброньскага.

Як паведаміў міністр Даброньскі, такіх бюро працуе дзесяць. Бюро ў Беластоку ахоплівае сваёй дзейнасцю чатыры ваяводствы: Беластоцкае, Ломжынскае, Сувальскае і Бела-Падляшскае. У гэтым апошнім, па меры магчымасцей, адкрыты будзе асобны філіял Беластоцкага бюро.

Урад спадзяецца, што з дабрадзейства закона аб грашовай кампенсацыі, якая прыслугоўвае асобам, вывезеным на прымусовую працу і пасаджаным у лагеры працы III Рэйхам і СССР скарыстае каля 350 тысяч чалавек. У тым ліку вывезеных на ўсход усяго трыццаць з нечым тысяч.

Як сказаў А. Даброньскі, прыняццё закона выклікала вялікія спадзяванні. Дзяржава не ў змозе неадкладна споўніць гэтыя спадзяванні. Пасля доўгіх перагавораў з Міністэрствам фінансаў вырашана расклясці назначанне кампенсацый на тры гады.

Сёлета кампенсацыю атрымаюць усе, каму споўнілася 80 гадоў ды інваліды I групы. Нават калі рашэнне ў іх справе будзе прынята пад канец года, атрымаюць столькі, колькі ім належыцца ад кастрычніка. (Кампенсацыя будзе сталай дабаўкай да пенсіі). Іншым кампенсацыя будзе назначацца ў двух наступных гадах. Увесь час ведамства лічыцца з магчымасцю ўвядзення наступных парогаў узросту. Магчыма, што як першыя кампенсацыю будуць атрымліваць тыя, каму споўнілася 70 гадоў.

Паводле закона кампенсацыя прыслугоўвае асобам вывезеным па-за межы даваеннай Польшчы. У беластоцкім бюро будуць разглядацца толькі справы асоб вывезеных на прымусовую працу ў III Рэйх. Метад назначэння кампенсацы будзе такі: у I этапе ўсе справы трэба афармляць у адпаведнай арганізацыі, што аб'ядноўвае людзей, якія пацярпелі ад III Рэйха, напр. Таварыства пацярпелых ад III Рэйха (Stowarzyszenie Poszkodowanych przez III Rzeszę).

Далей, на аснове дакументацыі перададзенай згаданымі арганізацыямі, бюро прымае рашэнне ў справах, якія не выклікаюць сумненняў.

Калі дакументацыя недастатковая, заяву бюро адсылае ў Варшаву.

Вывезеныя на ўсход павінны падаваць заявы таксама ў адпаведныя арганізацыі, такія як Саюз сібіракаў (Związek Sybiraków). Адсюль заявы будуць перадавацца непасрэдна ў Варшаву.

Адносна патрэбнай дакументацыі міністр паведаміў аб увядзенні новых магчымасцей пасведчання вывазу. Апрача дакументацыі, якая раней была перададзена напр. у Фонд польска-нямецкага прымірэння (Fundacja Polsko-Niemieckiego Pojednania) ці ZUS (якая, дарэчы, будзе правярацца бюро), можна далучыць г.зв. гістарычную дакументацыю: здымкі, лісты. Заявы сведкаў неабавязкова мусяць паходзіць ад асоб, якія працавалі разам. Гэта можа быць напр. сведчанне асобы, якая ехала ў Нямеччыну гэтым самым транспартам.

Як заўважыў міністр, вышэйсказанае стварае магчымасць фальшавання сведчанняў, але лепей каб атрымаў кампенсацыю нехта, каму яна не належыцца, чымсці пазбаўлены быў яе хтосьці, каму яна належыцца.

На канец А. Даброньскі заявіў, што рыхтуецца закон аб дзецях вайны (г.зн. вывезеных на прымусовую працу разам з бацькамі). Паводле агульных падлікаў, такіх асоб сама найменш 150 тысяч,

**Алег ЛАТЫШОНАК**

PS. Для зацікаўленых падаем адрас Бюро:

Urząd d/s Kombatantów
i Osób Represjonowanych
Departament Świadczeń
za Pracę Przymusową
Stanowisko Terenowe w Białymstoku
ul. M. Curie-Skłodowskiej 3
(pokój 63, II piętro)
godziny pracy: codziennie oprócz sobót
$8^{00}$ — $16^{00}$
przyjmowanie interesantów:
poniedziałek, wtorek, środa
w godz. $9^{00}$ — $15^{00}$
tel. 42-13-24

# З пустога ў парожняе

Яшчэ на пачатку кастрычніка г.г. бачыў я на чыгуначнай станцыі Кляшчэлі тры велізарныя бульдозеры.

— Што яны будуць рабіць у Кляшчэлях, — пытаю касіра білетнай касы Янку В.

— Раўняць зямлю каля пуці...

— А навошта гэтае?

— Каб рабочым з дарожнага аддзялення было добра шпалы выцягваць пры абмене...

— Ці сапраўды гэта патрэбнае? — такое пытанне паставіў я знаёмаму чыгуначніку з Дарожнай секцыі ў Бельску-Падляшскім. А той мне адказвае, што і сам не ведае, хто і чаму даў такі загад на вярхушцы, гэта значыцца ў ЦДОКП у Варшаве.

Як усім пэўна вядома, лінія Чаромха—Беласток не мае „racji bytu". Ніхто не думае яе рамантаваць. Дагэтуль яшчэ яе не закрылі, бо курсіруе цягнік Беласток—Брэст.

Навошта тады раўняць зямлю побач чыгуначнага палатна і вывальваць непатрэбна так аграмадныя грошы?

Мне, як чыгуначніку, справа здаецца быць зразумелай. Нейкі „важны" чыноўнік у Дарожным аддзяленні ў Беластоку надумаў памагчы сваім механікам бульдозераў і даць ім нейкую працу, каб не лічылася, што яе тут няма. Вось і пачалася перакіданне зямелькі-карміцелькі з аднаго боку на другі — „з пустога ў напрожняе".

І гэта называецца чыгуначнай эканомікай? **(ус)**

# Беларусь у пошуках свайго месца

***(працяг са стар. 1)***

лежную Беларусь. Гэта і быў той рэальны плён пяцігадовага адраджэння, які выспеліўся насуперак зацяжным дэкадам абрусення і калектывізацыі грамадскай свядомасці з уцэнтраванасцю на расейскі Крэмль. **Першы раз у гісторыі беларуская ідэя выйшла па-за межы паэзіі** ці фасаднай абалонкі для зусім чужой сярэдзіны і знайшла ўгрунтаванне ў рэальнай падтрымцы мільёна дарослых грамадзянаў. Урэшце і беларуса запыталі пра ягоную думку, і ён тую думку выказаў. Па сваёй статыстыцы адказ прыйшоўся не цалкам даспадобы, але ж у свеце мы маем не адзін народ колькасна меншы за мільён, які не паставіў крыжа на сваім нацыянальным лёсе. Сёння, пасля менскіх дэманстрацый вясною, я ўпэўнены, паказнік гэты ўжо стаіць на двух мільёнах, калі не лепш. У кожным разе, колькасць прыхільнікаў незалежнасці пастаянна расце з кожным днём кансервацыі савецкага маразму, да якой толькі і здольны цяперашні рэжым. Гэтага можа аказацца пакуль замала, каб вырашыць лістападаўскі рэферэндум не ў карысць дыктатуры, але наконт незалежнасці сумненняў мець не выпадае — „працэс пайшоў у нізы". Другі пазітыўны аспект лукашэнкаўскай эпохі — адвеянне непатрэбных ілюзій і міфаманства наконт г.зв. „народнай асновы" для беларускай ідэі. У традыцыйным сэнсе, такой асновы няма — калгасная вёска ўшчэнт дэмаралізаваная і нацыянальна абыякавая; старэйшае гарадское пакаленне, з якога бальшыня — пенсіянеры савецкага часу, да скону будзе стаяць за вяртанне нечага накшталт Савецкага Саюза і тых сціплых прывілеяў, якія дазвалялі яму „людзьмі звацца". Гэта палітычная кліентура Лукашэнкі; нічога больш станоўчага за свой зыход яны на алтар беларускай ідэі не прынясуць. Ключ да беларускай будучыні ў руках маладога і сярэдняга гарадскіх пакаленняў.

Дзіўна ці не, але **беларускай незалежніцкай ідэі, нягледзячы на яе невыразны кшталт, няма ніякай альтэрнатывы, ні ідэалагічнай, ні палітычнай.** Адаграваная ідэалогія (усходне)славянскага яднання пад кіраўніцтвам Масквы страчвае свой сэнс без удзелу Украіны, якая лезці ў гэтае яднанне і не збіраецца. Дзеля такога яднання патрэбны аўтарытэт (сапраўдны або містыфікаваны) і ўлада, не раўнуючы як у расейскага цара ў XIX стагоддзі. На Крамлі не відаць кандыдатаў у такія аўтарытэты, а натугі шклоўскага інтэгратара („рускага чалавека" з пашпартнай нацыянальнасцю „савецкага беларуса" і веравызнаннем „праваслаўнага атэіста") непазбежна кіруюць усю гэтую імпрэзу ў жанр гратэску. (Наўрад ці сам Лукашэнка сёння яшчэ памятае, за што ён падымаў тост на Крамлі ў сакавіку і як называецца тая нібыта дзяржава, якую ён стварыў з Ельцыным.) З другога боку, Расея не пойдзе на палітычную інкарпарацыю Беларусі, узяўшы курс на менш турботлівае падпарадкаванне — эканамічнае, праз свае новакапіталістычныя карпарацыі і канцэрны (іхні сучасны постсавецкі назоў: прамыслова-фінансавыя групы). Адзін расейскі „Газпром" чаго варты — можа паставіць і скінуць з галоўнай пасады ў Менску каго заўгодна літаральна за пару тыдняў, асабліва зімовых. Расеі непатрэбны клопат палітычнай адказнасці за дабаўку 10 мільёнаў абадранцаў да ўласнай шматкроць большай арміі басоты. Пры эканамічным кантролі заўсёды можна мець мясцовы, каланіяльны ўрад як громаадвод для туземскіх навальніцаў. Как говорят в Минске: незалежнасці быць!

**Іншая справа, што сама ідэя беларускай незалежнасці, дакладна па віне яе галоўных абаронцаў і пашыральнікаў, вельмі ўжо нагадвае нешта савецкае па натуры,** дарма што з памянянымі на супрацьстаўныя знакамі ацэнкі некаторых гістарычных і духоўных каштоўнасцей. Беларускі незалежнік і надалей уяўляе сябе ў замкнёнай постэсэсэраўскай прасторы, у якой індывідуальны выбар можна заступіць дзяржаўным дэкрэтам і цэнтральнай палітычнай рэгламентацыяй. Каб заваліць у магілу ідэю адраджэння мовы, хопіць растыражаваць тэзіс аб татальным пераводзе ўсяго ў беларускай дзяржаве на беларускую мову. Каб паставіць у стан трывогі і мабілізацыі ўсю пенсіянерска-ветэранскую „рать" (два мільёны актыўных і дысцыплінаваных выбаршчыкаў), для якіх, хочаш не хочаш, найлепшыя гады жыцця прайшлі пад камсамольскімі і іншымі чырвонымі сцягамі, — хопіць заікнуцца аб дэкамунізацыі і дэлегалізацыі іхніх улюбёных арганізацый. Усё гэта, і мноства чаго іншага, зусім лішняга ў праграме і прапагандзе БНФу, камусьці можа паказацца адно тактычнымі памылкамі ў барацьбе за ўладу, у якой ён і так не меў шанцаў перамагчы пры дадзеным электараце. Я магу з гэтым пагадзіцца. Але БНФ, дабравольна пазбавіўшыся якога-небудзь палітычнага значэння ў гэты „судьбоносный" час, не пусціў у ход нечага стратэгічнага, што працавала б на перспектыву. Ён не выпрацаваў такога праекта будучыні Беларусі (хай сабе і на ўзроўні палітычнай мроі), які б ставіў краіну ў іншае месца (зразумела, у светапогляднапалітычнай канфігурацыі, а не ў рэальнай прасторы). Ён не ўкараніў у грамадскую свядомасць погляду аб магчымасці існавання Беларусі ў нерасейскай канфігурацыі, нават калі б гэтая канфігурацыя складалася ўсяго з Беларусі, Украіны і Балтыі, што было б цалкам натуральным узнаўленнем ідэі Вялікага княства Літоўскага — адаптаванага да сучасных абставін буфера паміж Расеяй і Еўропай. І сляпому відаць, што гэтая канцэпцыя пасуе на 100% Украіне, занятай няўступным выбудоўваннем свае незалежнасці ад Масквы. Канцэпцыя гэтая, па вялікім рахунку, прыжылася б і сярод балтыйскіх дзяржавак, бо раней ці пазней дойдзе да іхняй свядомасці, што ніхто іх не рыхтуе нават месца ў чарзе да Еўрапейскага звязу, не кажучы ўжо аб рэальным удзельніцтве ў ім. Інакш кажучы, беларуская незалежнасць усё яшчэ не ведае месца свайго ўжыццяўлення. Аляксандр Рыгоравіч можа спакойна заяўляць, што для інтэграцыі з Расеяй няма ніякай альтэрнатывы. Ну і фактычна, што тут яму адкажаш? Незалежнасць Беларусі ў ізаляцыі ад суседзяў — праект не менш недарэчны за пабудову рынкавага сацыялізму ў ёй.





*Ключ да беларускай будучыні ў руках маладога і сярэдняга гарадскіх пакаленняў.*

**Разам з віхрам усялякіх незалежнасцей і інтэграцый на галовы посткамуністычных выбаршчыкаў абвалілася яшчэ адна рэвалюцыя, значэнне і наследкі якой ніхто не ў змозе асэнсаваць да канца. Гэта камунікацыйна-інфармацыйная рэвалюцыя**, якая, з аднаго боку, пры дапамозе спутнікавых каналаў сувязі ды *Інтэрнэту* стварыла чалавеку зусім іншую інфармацыйна-культурную сітуацыю і каардынаты, а з другога, звяла да мінімуму шанцы таталітарных рэжымаў на цалкавіты кантроль над інфармацыяй. Сама логіка тэхналагічных пераўтварэнняў вымушае ўзнікненне г.зв. адкрытых грамадстваў. Як ведаем, беларускасць найлепей пачувае сябе ў замкнутых і самадастатковых прасторах, у кантакце ж з вонкавымі сістэмамі нязменна прайграе. Ці так мае быць і надалей? Ці, як кажа Сакрат Яновіч, Беларусь сапраўды мусіць „дэгенеравацца ў яшчэ адну дзяржаву рускіх" і „русафонскае ўтварэнне" ў эпоху камунікацый? Я ўпэўнены, што не, хоць Беларусь і не станецца нацыянальнай маналітнай дзяржавай з беларускай дамінантай, як закладае ідэальны праект цяперашняга нацыяналізму. Нічога не зробіш, але для маладога пакалення, якое хоча актыўна спажыткоўваць даброты эры камунікацый, беларускасць бачыцца пакуль як запруда на гэтым шляху, як нешта, што хутчэй замыкае прастору камунікацыйных магчымасцей, чымсьці яе размыкае. Усё большае значэнне ў гэтым плане будзе набіраць англійская мова, аб'ектыўна адбіраючы ў расейскай мовы дагэтульную манаполію на пасрэдніцтва ў кантактах з астатнім светам, з глабальнай айкуменай. (У Польшчы значэнне расейскай мовы за некалькі гадоў упала амаль да круглага нуля.) Гэта новая культурная сітуацыя, якая дае беларускай мове рэальны шанц на выжыванне. Будзе гэта выжыванне ў сітуацыі двухмоўнасці, у якой беларуская мова будзе доўга адваёўваць калісьці страчаныя альбо браць зусім новыя пазіцыі ў гуманітарнай сферы. Савецкая эпоха пакінула па сабе фактычна сітуацыю аднамоўнасці (расейскамоўнасці) у Беларусі; тая ніша беларускамоўя, што трывала дзякуючы савецкім беларускім пісьменнікам і творчай інтэлігенцыі, была ў асноўным накіраваная на ідэалагічнае абслугоўванне камуністычнай сістэмы і ў перспектыве магла прывесці толькі да самавыражэння або самаліквідацыі (што і наступіла ў рэферэндуме 1995 г., своеасаблівым падсумаванні духоўных „достижений" Беларусі як „самой передовой республики" ў цэлым Савецкім Саюзе). Таму, **цвяроза глянуўшы на становішча, трэба прызнаць, што расейска-беларуская двухмоўнасць у Беларусі будзе крокам уперад у параўнанні з цяперашнім станам. Упэўненасць у тым, што беларуская мова знойдзе сферы актыўнага прымянення, дае мне логіка палітычных падзей у лукашэнкаўскую эпоху. У прэзідэнцкіх выбарах 1994 г. Лукашэнку выбіралі калгаснікі і рабочыя, на Кебіча галасавала чынавенства, Пазьняк атрымаў галасы настаўнікаў беларускай мовы і нацыянальна арыентаванай інтэлігенцыі. Палітычную арыентацыю моладзі ў той час можна акрэсліць як „выбар джынсаў і кока-колы" — яна ігнаравала палітыку. Два гады пасля, калі яна зарыентавалася, што Лукашэнка прапануе ёй фуфайку і квас, *всерьёз и надолго*, моладзь на менскіх вуліцах выбірала ўжо свабоду і незалежнасць.** Трэба яшчэ пэўнага часу, каб маладое пакаленне адчула патрэбу ў нацыянальнай культуры, як самай высокай адзнацы дзяржаўнай незалежнасці. Гэтая патрэба яшчэ доўгі час можа глушыцца эканамічнымі праблемамі, але яна возьме сваё. На Беларусі ж нацыянальная культура амаль поўнасцю супадае са сферай беларускай мовы. Патрэбу ў культурнасці і нацыянальнай культуры будзе яшчэ стымуляваць і праграмна бескультурны (ва ўсіх сэнсах гэтага слова) лукашэнкаўскі рэжым ды сам „бацька народа", які не скрывае свае пагарды да беларушчыны і людзей культуры ўвогуле. Трэба аднак разумець, што выбар беларушчыны перастане быць палітычным актам, як гэта ёсць цяпер і як гэтага хоча БНФ. Будзе гэта свабодны выбар культурнай публікі, патрэба пацвярджэння і дапаўнення свае нацыянальнае ідэнтычнасці.

У сувязі з гэтым, як заключэнне, хацелася б раз і назаўсёды развянчаць усе г.зв. „ірландскія аналогіі", вонкава прывабныя рытарычныя фігуры для апісання смерці беларускай мовы. Ірландская моўная сітуацыя не можа быць супастаўленая з беларускай па дзвюх кардынальных прычынах:

а) Пачынаючы з эпохі Рамантызму, мовай ірландскай культуры сталася англійская; народная ірландская культура была на зыходзе. Калі ірландскія інтэлектуалы канца XIX ст. адчулі патрэбу ў нацыянальнай (кельцкай) мове і культуры (г.зв. перыяд „кельцкага адраджэння"), яны з жахам і болем усвядомілі, што дзеля гэтага няма народнай асновы і сам народ трэба было б навучыць мове ад пачатку. Філолагі здолелі рэканструяваць мову і ўратавалі яе ад забыцця, але функцыі абслугоўвання культуры цалкавіта ўзяла на сябе англійская мова. Што больш, у англійскамоўнай літаратуры ірландцы дасягнулі нечуваных поспехаў у сусветным маштабе, і мова колішняга заваёўніка-англасакса перастала ім быць мовай чужынца. Яны „ірландызавалі" англійскую мову. Нічога падобнага не сталася з расейскай мовай у Беларусі. За 200 гадоў русіфікацыі Беларусь так і не была ў змозе выдаць хоць аднаго значнага пісьменніка ў расейскай мове. У Беларусі расейская мова існуе ў сваім журналісцкім варыянце драўлянага савецкага навамоўя і на пабытавым узроўні як „трасянка", густа прыпраўленая матам. Культурныя патрэбы абслугоўвае „плебейская" беларуская мова, дарма што таксама пазбаўленая народнай асновы ў жывых гаворках.

б) Уявім сабе, што Польшча пачала рэалізаваць праект „лацінізацыі" — пераход на лацінскую мову, скажам, дзеля цяснейшай інтэграцыі з заходняй Еўропай і адшукання сваіх лацінскіх каранёў. Магчымы поспех гэткага праекта, нават пры паўсюднасці навучання лаціне, абмежаваўся б усяго да невялікай групкі энтузіястаў-філолагаў, якія, можна дапусціць, былі б у змозе рэанімаваць нешта накшталт лацінскамоўнай літаратуры. Шырэйшыя ж масы, дзеля непадабенства пальшчызны і лаціны, засталіся б татальна звонку гэтага амбітнага праекта. Сама менш такая тэхнічная цяжкасць, дзеля непадабенства англійскай і ірландскай моў, стаіць перад праектам моўнай ірландызацыі Ірландыі.

Нічога падобнага не назіраецца ў Беларусі, дзе беларускае слова разумеюць усе, бальшыня насельніцтва валодае мовай пасіўна, а актыўнаму выкарыстанню яе мяшае перш за ўсё псіхалагічны бар'ер, а не аб'ектыўна лінгвістычны.

**ЯН МАКСІМЮК**

*Вылучэнні тлустым друкам паходзяць ад рэдакцыі.*

# Матэматыка і паэзія

Сёлета паэт **Дзмітры ШАТЫЛОВІЧ** адзначае сваё сямідзесяцігоддзе. Нарадзіўся ён 8 лістапада 1926 г. у Чаромсе. Дэбютаваў у 1957 г. на старонках „Нівы", і ў гэтым сэнсе з'яўляецца яе равеснікам. Амаль падвойны юбілей — яшчэ і блізу сорак гадоў літаратурнай творчасці. Прыгожая нагода паразмаўляць.

***— Спадар Шатыловіч, Вам семдзесят. Гэта многа і мала, у залежнасці ад самаадчування і здароўя. У Вас электратэхнічная адукацыя, у мяне таксама, дык давайце пагаворым пра біятокі, якія абумоўліваюць энергічнасць арганізму. Ці задаволены Вы іскрамі сваёй біялагічнай дынамікі?***

— Да сённяшняга дня магу сказаць, што — так! Адчуваю я сябе, як на 70 гадоў, добра. Месяц таму назад — па маёй просьбе — лекары правялі медыцынскі агляд майго здароўя. І ўсё ў мяне, аказалася, у норме: халестэрыну — 201, глюкозы — 81, і т.д. Вельмі добрыя вынікі! Сэрца гэтак жа ў парадку. І ўсе свае зубы маю, толькі два з іх пламбаваныя. Хоць у дзяцінстве я часта хварэў, два разы запаленнем лёгкіх, а за трэцім — у 1942 г. — бацькі ўжо думалі, што не выжыву (не было тады лекаў).

***— Я, як мне здаецца, прачытаў усё, апублікаванае Вамі, пачынаючы ад першых вершаў у ледзь памятныя ўжо гады і гады таму назад. Яны — Вашы вершы — нагадвалі як быццам паэтычныя рэпартажы са свету, напр. з Індыі або Міжземнамор'я. Скажыце, як чалавек, за спіною якога такі шмат жыцця: ці хацелася б Вам быць паэтам, калі б не пашанцавала столькі падарожнічаць? Які быў пачатковы імпульс дзеля творчасці?***

— Пачаў я пісаць вершы на рускай мове ў 7-м класе школы (1940 г.). Мае першыя — часам змяшчаліся ў школьнай насценнай газеце, пасля карэктуры ў настаўніцы рускай мовы.

А падарожжы потым былі нейкім стымулам, які заахвочваў мяне ўзяцца за пяро. Я для сябе хацеў пакінуць успамін з дарогі. Мне вельмі цяжка было ўзяцца за пяро, каб пісаць вершы на беларускай мове; вывучаў яе позна, маючы ўжо чатырнаццаць гадоў. У вёсцы, адкуль я сам, размаўлялі на палескім дыялекце, шмат у чым падобным на ўкраінскую мову. Але мае бацькі заўсёды казалі, што мы беларусы. Калі перад самой вайною здаваў я экзамены ў тэхнікум у Брэсце, у маіх паперах было напісана, што я беларус, хаця падказвалі мне некаторыя людзі, каб падацца палякам, бо, як беларуса, могуць не прыняць. Але мяне прынялі, бо здаў экзамены. Беларускай культурнай мовы я тады яшчэ не чуў. Пачаў вучыцца я з прыходам да нас саветаў. А пасля зноў — ні ў Прусіі, куды мяне вывезлі на прымусовыя работы, ні ў савецкай арміі, у якую мабілізавалі напрыканцы вайны, — я не меў кантакту з літаратурнай беларушчынай. І толькі ў 1946 г. — на працягу паўгода правучыўся ў беларускай гімназіі; яе неўзабаве ліквідавалі. Канчаў сярэднюю адукацыю ў польскім ліцэі; затым апынуўся ў інстытуце ў Ленінградзе, які закончыў у 1954 г. Беларускай мовы там, натуральна, не чуў. Атрымаў работу ў Варшаве, сярод палякаў. Мне трэба было проста вучыцца беларускай мове, а падручнікаў і слоўнікаў я яе я доўга не меў. Але намагаўся валодаць ёю і час ад часу нешта пісаў.


*У Клайпедзе ў ліпені 1996 года.*

Падарожнічаў сапраўды нямала. Былі ў мяне частыя службовыя выезды туды, дзе я праектаваў электрычную аўтаматыку на электрастанцыях, фабрыках. Самая доўгая, ажно трохгадовая, была ў мяне камандзіроўка ў Індыю, у другой палове васьмідзесятых. Але яшчэ ў 1975 г. я скончыў курс гідаў замежных экскурсій і ў час водпускаў вазіў „орбісаўскія" экскурсіі ў розныя краіны Еўропы. Яшчэ і цяпер люблю быць у дарозе, бачыць шырокі свет.

***— Нехта калісьці заўважыў, што ўсе цуды свету можна ўгледзець і спазнаць у сваёй роднай Малой Айчыне. Я, аднак, думаю, што рацыя ў гэтым не да канца: усё ж трэба пабачыць больш, каб магчы потым дагледзецца велічы Бацькаўшчыны. Ці Вы, як бывалы чалавек, згодны з тым?***

— Напэўна. Я, скажам, упершыню ўгледзеў мора ў 1948 г., калі здаваў экзамены ў гданьскую Палітэхніку. Захоплены ім, напісаў верш.

Я часта параўноўваў цуды прыроды, цуды створаныя чалавечай рукою ў іншых краінах, прымяркоўваючы іх з тым, што бачыў у сябе, на Бацькаўшчыне. Што сказаць — падобных цудаў у нас вельмі няшмат. У Беларусі я бачыў не толькі цуды, але і непраўдападобную галечу, асабліва пасля вайны. Я адчуваў сябе вельмі блага, калі, едучы цягнікам у Ленінград, бачыў на беларускіх станцыях заморданых дзяцей і жабруючых дарослых. Калі даваў камусьці з іх буханку белага польскага хлеба, яны кідаліся цалаваць мяне па руках. Нешта падобнае пасля сустракаў у Індыі.

Не менш прыкра было бачыць, як гіне беларуская мова, акружаючы яе пагардаю. Неяк знаходзячыся потым у Мінску, у ролі ўжо гіда замежнай польскай экскурсіі, загаварыў я да швейцара ў гасцініцы па-беларуску, і трэба было бачыць, як ён вылупіў на мяне вочы. Я звярнуў яму ўвагу на тое, што Мінск — сталіца Беларусі, а ён мне адказаў, што тут — СССР! Нічога падобнага я не пачую, скажам, у Кіеве, не кажучы пра Тбілісі, Баку, ці Ерэван. Праўда, у Адэсе не захацелі гаварыць са мною па-ўкраінску (ведаю гэту мову).

***— Чытаючы Ваша, не раз падумалася мне аб тым, як Шатыловіч ходзіць паміж руінаў і помнікаў антычных цывілізацый — як турыст, ці перш за ўсё як беларус, якому цікава ўнікаць у безліч тую эпохаў гісторыі чалавецтва недзе ў даліне Ганга або ў колішняй рымскай правінцыі ля Адрыятыкі? Задаючы сабе пры гэтым амаль матэматычнае ўраўненне: якія „іксы" ды „ігрэкі" склаліся на наш беларускі вынік? — у сусветным кантэксце.***

— І як турыст і, як беларус. Як турыст я намагаўся азнаёміцца з гісторыяй дадзенай краіны, яе помнікамі, і г.д. А як беларус я глядзеў на ўсё з майго пункту гледжання, маіх суайчыннікаў. Я не мог паверыць, што індуізм ці будызм — гэта праўдзівыя рэлігіі. Але не здзіўляўся індусам, калі яны ў святынях маліліся да сваіх багоў, якія мне бачыліся ідаламі.

***— У літаратуры наогул наглядаецца дзіўную на першы погляд з'яву прыходу ў яе аўтараў з інжынерскай адукацыяй. Знакамітым прыкладам дзеля гэтага ёсць Вы самі. Усяляк тое тлумачыцца, а як Вы менавіта глядзіце на спалучэнне матэматыкі з лірыкай у галаве і ў душы?***

— Адно аднаму не перашкаджае. Я люблю матэматыку, фізіку, нават хімію, але, разам з тым, цікаўлюся гісторыяй, літаратурай, паэзіяй. Вельмі люблю творы Лермантава, захапляюся Дастаеўскім. У акупацыю прачытаў амаль усяго Дастаеўскага, таксама „Бесы". На мове арыгінала, па-руску. Мне здавалася, што, калі пастарэю, у будучым знойдзецца болей часу дзеля чытання. На жаль, цяпер у мяне таго часу менш, чым калі-колечы раней. Дзіўна...

***— Паводле майго адчування, у Вашай асобе існуе некалькі талентаў, што рэдка здараецца ў жыцці. Вы ж небанальны інжынер, іначай жа не накіроўвалі б Вас на замежныя будоўлі; разам з тым і паэт. А яшчэ і рэпартажыст — сумленны і зоркі апісальнік убачанага і перажытага, што асабліва відавочнае ў публікаваных на старонках „Нівы" ўспамінах ваеннага часу. Што Вы скажаце на тое, што я намаўляю Вас напісаць кніжку жыцця?!***

— Хацелася б, але не маю часу ўзяцца за пяро. Усё нешта перашкаджае. Аднак, можа, напішу яшчэ нешта...

*Інтэрв'ю ўзяў* **Сакрат ЯНОВІЧ**

# Змярканне лібералізму

Інтэлектуальнай з'явай у Польшчы канца васьмідзесятых і пачатку дзевяностых гадоў быў літаратурны часопіс „Brulion". Сёння гэты літаратурны альманах крытыкуецца з усіх бакоў за прапагандаванне нігілізму, дэкадэнцтва, лібералізму. Рэдактары „Brulionu" пра сваё нядаўняе ўяўленне свету гавораць як пра крайнюю наіўнасць, дэструктыўнае мышленне, заяўляюць, што толькі падсвядомыя працэсы, якімі кіраваў Стваральнік Свету, выратавалі іх ад жыццёвых памылак. Сёння іх свядомасць астаецца ў поўнай згодзе з падсвядомасцю.

Падобныя працэсы назіраюцца таксама ў музыцы. Штораз часцей змест бывае запярэчаннем формы. Рок-гурты адзін за другім спасылаюцца на каталіцкія прынцыпы, прапагандуюць філасофію жыцця, якая для стваральнікаў гэтага гатунку музыкі пахла затухласцю. Дыска-пола гучыць штораз больш як музыка палітычна-патрыятычнага характару.

Не толькі ў галіне культуры наступае пастаяннае змярканне лібералізму. Гэта перш за ўсё відаць у галіне палітыкі і гаспадаркі. Узрастае папулярнасць партый, якія прапагандуюць грамадству татальную нацыянальную ідэалогію і адначасова сацыялістычную — антыліберальную па сваёй натуры — гаспадарчую праграму. Усё паказвае, што партыі Мар'яна Кшаклеўскага і Яна Альшэўскага ў найбліжэйшым часе будуць моцна адзначаць сваю прысутнасць у палітыцы III Рэчы Паспалітай. З другога боку як канкурэнтная сіла існуе толькі неакрэсленай ідэалагічнай арыентацыі партыя ўлады, якая ў Польшчы паспяхова рэалізуе ідэю прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі — г.зв. „рынкачны сацыялізм". Ёсць яшчэ клерыкальная ў галіне ідэалогіі і левая ў галіне эканомікі партыя Вальдэмара Паўляка, якая пойдзе з кожным, хто запрапануе ёй высокія ўрадніцкія крэслы і магчымасць карыстацца касай падаткаплацельшчыкаў. Пастаянна падае значэнне Уніі вольнасці, ліберальнай партыі, якая на працягу трох гадоў з дваццаціпяціпрацэнтнай падтрымкі грамадства зышла на пяць працэнтаў.

Лібералізм, які прапанаваў чалавеку і грамадзяніну самастойны выбар этычных, палітычных і эканамічных нормаў штодзённага жыцця, аказаўся тут мала ўспрымальным. Пасля шасці гадоў спаборніцтва розных ідэй, грамадства пачало сумаваць за нечым выразна акрэсленым, за сілай, якая адкажа на простыя пытанні: што ёсць добрае, а што дрэннае. Адчуваецца чаканне ўлады, якая больш рашуча адгукнецца на міф супольнасці. Дэмакратыя, якая патрабуе безупыннага выбару, пастаяннага аналізу шматлікіх заклікаў, лозунгаў, прапаноў, аказалася вельмі стамляючай і мала зразумелай.

Ужо не раз усялякія палітычныя групоўкі свае няўдачы тлумачылі супрацьдзеяннем нейкіх масонаў, лібералаў, яўрэяў. Нішто так не інтэгруе кожную супольнасць, як сапраўдны ці прыдуманы вораг. На шчасце Польшча выбрала напрамак у заходнееўрапейскія структуры, а там не прымаюць народаў, якія змагаюцца з уласнымі прывідамі. Спадзяванне дабрабыту пасля далучэння да Еўропы ёсць так вялікае, што ніякая сур'ёзная палітычная сіла адкрыта не адкіне дэмакратыі, як асновы функцыянавання дзяржавы.

Усе народы ўсходняй Еўропы, апрача чэхаў, здамінаваныя сялянскай традыцыяй. Патрабуюць яны аўтарытэтаў, ілюзійнага свету і больш, чым свабоды, самога змагання за свабоду. Тутэйшы рамантызм ва ўмовах камп'ютэрнай эры спараджае толькі чарговыя хвалі фрустрацыі і настальгіі па свеце, якога ўжо няма. Свабода і дэмакратыя больш выразна паказалі цывілізацыйнае разыходжанне сялянскага Усходу Еўропы і мяшчанскага Захаду. Лібералізм, які адкрыў дарогу да поспехаў тамашняга свету, тут аказваецца неўспрымальным, штучным, нават сярод элітаў. У постсавецкіх краінах не вядомы ён нават у выглядзе тэорыі. Прыклад Беларусі паказвае, што ажыццяўленне яго на практыцы можа адбыцца там толькі выключна за справай будучых пакаленняў.

**Яўген МІРАНОВІЧ**

# Зорка

**СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ**

## Восеньская сустрэча

У Дубіцкай школе ведаюць „Зорку". У калідоры школьнага будынка сустрэў мяне сімпатычны сюрпрыз. Насценная газетка была прысвечана IV Сустрэчам „Зоркі".

Зараз у школе наладзілі фатаграфічную выстаўку з апошніх „Сустрэч".

Дубіцкія вучні неўзабаве будуць галоўнымі ўдзельнікамі VI Сустрэч „Зоркі", якія ў палове лістапада адбудуцца ў Старыне. Настаўніца беларускай мовы, спадарыня Галіна Трашчотка заснавала ў школе беларускі гуртоок „Жывое слова". Адной з энтузіястак гэтага гуртка з'яўляецца таленавітая васьмікласніца Ірэна Кулік.

— Цяпер дайшлі да нас вельмі *файныя* вучні з Грабаўца, — гаворыць Ірэна. — З многімі сябрамі я раней пазнаёмілася.

Пані дырэктар, Ніна Добаш-Карпюк, расказвае пра новыя перамены. У школе, адрамантаванай пасля канікул, ціха і працавіта.

— Маем і новага настаўніка, — гаворыць пані дырэктар.

У Дубічах пачаў працаваць настаўнік фізкультуры Ян Далінскі.

— Тут дзеці любяць гэтыя заняткі, — гаворыць ён.

Разам з настаўніцай Галінай Трашчотка і сяброўкай „Зоркі" Ірэнай Кулік завіталі мы да наймалодшых дзетак. Там разам з Ірэнай мы расказалі пра „Зорку" і нашы мерапрыемствы. Пазней спадарыня Ірэна Наўроцкая, якая ў наймалодшых класах навучае роднай мове, прадставіла найбольшых энтузіястаў. Аня Скаваротка, выдатніца з трэцяга класа найбольш любіць загадкі. Сама яна з Дубіч-Царкоўных. Аня — разумнічка, па ўсіх прадметах выдатніца. Яна як адзіная ў класе атрымала шасцёрку.



*Аня Скаваротка.*

— У нас усе дзеці цікавяцца роднаю мовай, — кажа настаўніца. — У наймалодшых класах усе мелі добрыя ацэнкі.

Чарак Бадавец, родам з Войнаўкі і Бася Трафімюк з Грабаўца будуць удзельнічаць у дэкламатарскім конкурсе. У тым часе, калі мы гаварылі пра гэты конкурс, у класе найшлося яшчэ пяць добраахвотнікаў. Як жа прыемна сустракаць такіх дзяцей!



*Дзеці з другога і трэцяга класаў з настаўніцамі Ірэнай Наўроцкай і Галінай Трашчотка ды васьмікласніцай Ірэнай Кулік.*

**ЗОРКА**

*Фота Г. КАНДРАЦЮК*

## Мена

Жылі дзед і баба. Мелі яны хатку і загон зямлі. Але не было ў іх ні каня, ні вала. А гэта такое гора, што хоць ты сам у плуг упрагайся.

Сабралі яны сяк-так грошай.

Пайшоў дзед на кірмаш, купіў буланага коніка і вядзе дахаты. Сустракае па дарозе пастухоў, што пасвілі валоў.

— Добры дзень, дзед! Дзе быў? — пытаюцца пастухі.

— На кірмашы.

— Што купіў?

— Каня.

— Памяняй з намі, дзед, каня на вала: у нас валоў шмат, а каня няма.

Падумаў дзед: вол таксама ў гаспадарцы не лішні.

— Добра, — кажа, — давайце мяняцца.

Аддаў дзед пастухам каня, узяў сабе вала ды вядзе яго дахаты.

Сустракае па дарозе пастухоў, што пасвілі авечак і бараноў.

— Добры дзень, дзед! Дзе быў?

— На кірмашы.

— Што купіў?

— Каня.

— А дзе ж ён?

— Памяняў на вала.

— Памяняй з намі, дзед, вала на барана.

— Добра: баран у гаспадарцы не лішні.

Узяў дзед барана за рогі і вядзе дахаты.

Сустракае па дарозе пастушкоў, што пасвілі індыкоў:

— Добры дзень, дзядуля! Дзе быў?

— На кірмашы.

— Што купіў?

— Каня.

— А дзе ж ён

— Памяняў на вала.

— А дзе вол?

— Памяняў на барана.

— Памяняй з намі, дзядуля, барана на індыка.

— Добра: індык таксама ў гаспадарцы не лішні.

Аддаў дзед пастушкам барана, сам узяў індыка пад пахі і пайшоў далей.

Прыйшоў у вёску. Тут на вуліцы дзеці гуляюць: ездзяць на качэргах. Падбеглі да яго дзеці:

— Добры дзень, дзядуля! Дзе быў?

— На кірмашы.

— Што купіў?

— Каня.

— А дзе конь?

— Памяняў на вала.

— А дзе вол?

— Памяняў на барана.

— А дзе баран?

— Памяняў на індыка.

— Ой, дзядулька, памяняй з намі індыка на качаргу: мы з індыком гуляць будзем!

— Добра, — кажа дзед, — давайце качаргу.

Узяў дзед качаргу і панёс дахаты.

Даведалася аб усім баба, схапіла дзедаву качаргу ды давай яго біць. Біла, біла — качарга зламалася.

На гэтым і казка скончылася.

## Нашы легенды

**Легенда пра Кнаразы**

Паводле легенды сяло Кнаразы паўстала 400 гадоў таму. На месцы Кнаразоў калісьці шумела вялікая пушча. Там паляваў нейкі важны і багаты пан. Злавіў ён вялікага дзіка, якога называлі „керназ". Адтуль першая частка назвы. Другая частка — гэта „розы", таму што калісьці расло тут многа дзікіх руж — шыпшыны. Нават цяпер жыхары Кнаразоў садзяць вельмі многа дзікіх „роз". Апрача таго за сялом растуць дзікія ружы. Гэта легенда перадаецца з пакалення ў пакаленне.

**Легенда пра Княжацкую гару**

Кіламетр ад сяла Кнаразы ёсць невялікі ўзгорак, які мясцовыя людзі называюць „Князя гара". Калісьці, можа ў турэцкую ці шведскую войны, там быў забіты і пахаваны князь. Слядоў кургана князя ніхто не памятае, а і гісторыя гэтага не пацвярджае. Цяпер там капаюць жвір. Не вяліся тут археалагічныя раскопкі, але і так легенда жыве па сённяшні дзень, так як і сама назва „Князя гара".

**Аня Крышпінюк**
**ПШ у Храбалах**

*Ніжэй публікуем здымак аўтаркі гэтага допісу.*



## Вершы Віктара Шведа

### Сметанковы зуб

— Выпадзе мне, матка,
Зубок відавочна.
— Не шкадуй, дзіцятка,
Гэта ж зуб малочны.

Вырасце, дасць Божа,
Табе зубок новы.
— А зубок той можа
Будзе сметанковы?

### Даўжэй знаёмы

Да старэйшага брата
Звярнуўся Валерка:
— Папрасі ты ў таты
Грошы на цукеркі.

— А чаму ж сам не можаш,
Калі тата дома?
— Ты ж напэўна, Сярожа,
З ім даўжэй знаёмы.

### Дрэнная падказка

— З цябе напэўна, Людка,
Дрэнная падказка.
Гаворыш вельмі хутка,
Зразумець мне цяжка.

— Не віна з майго боку,
Даражэнькі Коля.
Ты на кожным уроку
Слухаеш паволі.



*Дэкламаторкі з Нарвы.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Краявід сялянскай восені

Быў цёплы восеньскі дзень. Сонца моцна прыпякала, вецер зрэдку падвяваў. На лузе была яшчэ зялёная трава. З вялікім спакоем пасвіліся коні і каровы. У далечы было відаць прыгожыя бярозкі, якія яшчэ не зусім страцілі сваё лісце. Бярозкі жоўта-чырвоныя або зялёна-жоўтыя красаваліся ў восеньскім, далікатным сонцы. Здалёк віднелася белая кара. Зааранае поле паказвала свой недаступны выгляд. Лес, які сваім цёмна-зялёным колерам адбіваўся ад блакітнага неба і белых воблакаў, ствараў цудоўны краявід. Неба было вельмі блакітнае, а над лесам раз'яснялася. Астаўшыя птушкі спявалі восеньскую мелодыю, а на лугах сустракаліся чорныя бугаркі, якія парабіў сабе крот. З другой стараны паўкругам расцягваўся цёмны лес. У вочы кідалася абсеянае, ясна-зялёнае поле. Далёка, далёка ў лесе было відаць хату лесніка. Даходзілі галасы і грукат работы з недалёкага прадпрыемства „Рольмак”. Вецер мацней падвяваў. Бог стварыў цудоўны свет для прыроды і для людзей. Наваколе было спакойнае і толькі каровы не адрывалі сваіх мызаў ад пышнага абедутравы.

**Аня САДОЎСКАЯ**



*Шасцікласнікі з Гарадка.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Мая сям'я

Я жыву ў вёсцы Храбалы. У маёй сям'і ёсць мама, тата, сёстры Аля і Марта, брат Ярак і я — Марыся. Мае сёстры вучацца ўжо ў Бельску. Сястра Аля ў трэцім класе Беларускага ліцэя, а Марта — у першым класе таго ж ліцэя. Ярэк і я вучымся ў Пачатковай школе ў Храбалах. Я вучуся ў трэцім класе, а мой брат у сёмым. Мы ўсе вучымся добра. Бацькі з нас задаволены.

**Марыся ЯКІМЮК**
**вучаніца 3-га класа**
**Пачатковай школы ў Храбалах**

Мікола Гайдук

# Аб нашым мінулым

**10. У старажытным Драгічыне**

Заходняя граніца Берасцейскай зямлі пралягала ад вытокаў ракі Прыпяці праз сённяшнія мясцовасці: Уладаву-на-Бугу — Парчэў — Вогінь — Мендзыжэц — Морды — Мукаводы — Венграў — Нур-на-Бугу — Візна-на-Нарве — Гонёндз-на-Бебжы. На гэтай ускраіне найважнейшымі былі гарады: Берасце, пра якое ўжо гаварылася, і Дарагічын (сённяшні Драгічын-на-Бугу). Назва Дарагічын у цяперашняй мове значыць — „дрыгавіцкі”, „прыналежны дрыгавічам”. Там, дзе ён распалажаны, ужо ў VI стагоддзі н.э. было паселішча.

Дзякуючы свайму вельмі спрыяльнаму палажэнню на міжнародным бужанскім шляху, у сярэдзіне ўраджайнага і густа заселенага абшару, Драгічын рана разросся ў важны гаспадарчы дрыгавіцкі асяродак. Жыхароў яго злучалі ажыўленыя сувязі са старажытнымі дрыгавіцкімі і крывіцкімі гарадамі: Мельнік, Берасце, Пінск, Тураў, Гродна, Полацк. У Драгічын наведваліся купцы з розных краін, плывучы з Чорнага мора па Дняпры, Прыпяці, Бугу, Вісле ў Балтыйскае мора і ў адваротным кірунку. Ехалі яны таксама з Заходняй Еўропы праз Вроцлаў, Плоцк, Драгічын, Ваўкавыск і далей на ўсход, аж у Азію. Ад гэтага вялікага скрыжавання шляхоў з Драгічына адыходзілі іншыя тракты: адзін вёў праз Візну ў Прусію, Яцвягію і Жамойць, другі — праз Гродна ў Полацк і Ноўгарад, трэці — праз Чэрвень, Галіч у гарады над Дунаем. Былі дарогі яшчэ і ў іншых напрамках.

Такія сувязі Драгічына пацвярджаюць знойдзеныя ў ім археолагамі розныя прывазныя рэчы. З Далёкага Усходу трапляў сюды шоўк, з Візантыі — нагрудныя крыжыкі і іконы, з Урала — волава і медзь, з пабярэжжа Балтыйскага мора — бурштын, з Галіча — соль, а з усіх бакоў гналі сюды нявольнікаў, іх куплялі тут заходнееўрапейскія, візантыйскія і арабскія купцы.

Князі, баяры і купцы з розных усходнеславянскіх княстваў кіравалі праз Драгічын усялякія тавары ў Польшчу і Заходнюю Еўропу. Тут іх прадавалі чужаземным купцам або перагружалі, каб везці далей, і пры гэтым пакінулі тысячы алавяных пломбаў на беразе Буга, на яго дне, у гарадзе. Пломбамі былі пазначаны і забяспечаны тавары.

Драгічынцы жылі не толькі з гандлю. Яны выплаўлялі жалеза і выраблялі з яго зброю і іншыя рэчы. З бярозавай кары гналі дзёгаць для смалавання лодак і гарбавання скураў. Працавалі тут ганчары, краўцы, шаўцы, ювеліры, сяляне, перавозчыкі, рыбакі, пчаляры.

Драгічын быў таксама магутнай дрыгавіцкай крэпасцю. Яна ахоўвала насельніцтва, заходнюю граніцу Берасцейскай зямлі, гандлёвыя шляхі. Мноства знойдзеных стальных вастрыёў ад стрэлаў і коп'яў, кавалкі баявых мячоў і тапароў ды іншай зброі, тоўстыя пласты попелу з вуголлем і шматлікія пахавальныя курганы навокал сведчаць пра гераічныя змаганні абаронцаў крэпасці з ворагамі. Тут быў знойдзены самы цяжкі з усяе тэрыторыі Польшчы баявы меч. Выкапалі таксама тронкі баявога нажа з турынага рабра з выразаным на ім надпісам: „Ежковъ ножь, а иже и украдетъ, проклятъ будетъ” („нож Ежкавы, а хто яго ўкрадзе, будзе праклятым”). Гэта адзін з самых старажытных надпісаў кірыліцай на Беласточчыне, ён сведчыць пра адукаванасць колішніх драгічынскіх вояў.

З вучэннем Ісуса Хрыста насельніцтва заходняй ускраіны Тураўскага княства і асабліва жыхароў Драгічына і Берасця знаёмілі ўжо місіянеры, якія час ад часу з'яўляліся сюды з Вялікамараўскай дзяржавы. Аднак натрывала хрысціянства замацавалася тут толькі ў X стагоддзі. Тады пачало настала прыбываць духавенства з Турава, Кіева, а нават з Балгарыі. Пра ажыўленае духовае жыццё насельнікаў Драгічына сведчыць вялікая колькасць знойдзеных у ім праваслаўных нагрудных крыжыкаў, кавалачкаў каменных іконак, керамічныя пліткі, якімі была выкладзена падлога ў Драгічынскай царкве.

З часам самая заходняя частка Берасцейшчыны ўмацавалася і ўнезалежнілася ў вайсковых і гаспадарчых адносінах. Яна групавалася пры Драгічыне. Каля паловы XII ст. ён стаў сталіцай самастойнага Драгічынскага княства.

**Практыкаванні**

*1. Вызнач на карце Польшчы заходнюю граніцу колішняй Берасцейскай зямлі.*

*2. Што калісьці абазначала назва Драгічын?*

*3. Пакажы на карце старажытныя шляхі, што крыжаваліся ў Драгічыне або выходзілі з яго.*

*4. Адкуль у Драгічын траплялі праваслаўныя крыжыкі і іконкі, соль, шоўк, бурштын, медзь?*

*5. Адкуль у Драгічыне ўзяліся алавяныя пломбы?*

*6. Чым займаліся драгічынцы?*

*7. Як паводзілі сябе драгічынскія вoi? Што сведчыць пра іх адукаванасць?*

*8. Дзякуючы каму драгічынцы сталі праваслаўнымі хрысціянамі?*

**Дапоўні сказы і запішы іх у сшытку**

Старажытны Драгічын злучалі сувязі з ... і ... гарадамі: ..., ..., ..., ..., ... . У Драгічыне археолагі знайшлі самы ... ... ... ... . На тронках знойдзенага ў Драгічыне баявога нажа быў выразаны ... . Каля паловы ... ст. Драгічын стаў сталіцай ... ... княства.

# Польска-беларуская крыжаванка № 45

| | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Rzeka / Tytuł | | Dar / Gaz | | Lakier | | Nogi / Wesz | | Ład | Smutek | Oko | | Kat |
| | | | | | | | | | Sok | | | |
| Korowód / Szczelina, otwór | | | | | | | | Męka | | | | |
| | | | Kiszka | | | | | | Mat | | | |

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце ў „Зорку” на працягу трох тыдняў. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку н-р 41:** пяро, яма, вопратка, явар, вуж, дама, лапа, храпа, мова, пуп, іржа, птах, як, раса, яда, ява, мама, араб.

Узнагароды — фламастэры — выйгралі: **Сільвія Паплаўская**, ПШ у Гарадку, **Бася Тамчук**, ПШ у Старым Корніне, **Мярцін Мялешка**, ПШ у Новым Корніне, **Андрэй Садоўскі**, ПШ у Кленіках, **Янка Каліноўскі**, ПШ у Нарве, **Паўліна Скепка**, ПШ у Дубінах, **Ася Трахімчук**, ПШ у Гарадку і **Міхась Пракапюк**, ПШ у Кленіках.

Віншуем! Узнагароды можна атрымаць у нашай рэдакцыі або чакаць іх у сваёй школе.



**Талон „Зоркі” № 45**
**10.11.1996**

# „Сямейнае шаленства”

Томас Кенелі прыдбаў сусветную славу кніжкай „Спісак Шындлера”, на аснове якой славуты рэжысёр Стывен Шпільберг зняў фільм пад такім жа загалоўкам.

Адну са сваіх кніжак Кенелі прысвяціў, як ні дзіўна, беларусам. Называецца яна „Сямейнае шаленства”. Выбраныя фрагменты гэтага рамана пераклаў на беларускую мову Ян Максімюк, але пакуль што гэты пераклад чакае публікацыі ў „Нашай ніве”. Затое сёлета кніжка выйшла ў польскім перакладзе*. Гэта дае магчымасць пазнаёміцца з ёю шырэйшаму колу чытачоў.

Раман апавядае пра тры пакаленні беларусаў у XX стагоддзі. Дзеянні праходзяць наперамен у сучаснай Аўстраліі, на Беларусі ў час II сусветнай вайны (з экскурсамі ў ранейшую гісторыю, у тым ліку беларуска-польскіх дачыненняў) і зараз пасля вайны ў лагеры „дыпісаў” у Нямеччыне. Аўтар прымяняе розныя тэхнікі апавядання: непасрэдны расказ, успаміны і лісты. Складаецца нават ураженне, што гэтае багацце формаў вынікае з таго, што пісьменнік не надта ведае, як звесці ўсе канцы вельмі разбудаванай інтрыгі.

Героі рамана гэта аўстраліец Тэры Дэлані, працаўнік ахоўнага агенцтва, і сям'я беларускіх эмігрантаў Кабелаў, з якой лёс выпадкова звязаў таго ж аўстралійца. Рудзі Кабел, уласнік прыватнага ахоўнага агенцтва, у Аўстралію папаў пасля вайны малым хлопцам. У сапраўднасці называецца ён Радаслаў Кабельскі. Імя атрымаў у гонар Радаслава Астроўскага, прэзідэнта БЦР. Бацька Радаслава Кабельскага быў міністрам БЦР, а дзед — міністрам БНР.

Гісторыя абумовіла лёс Кабельскіх і непасрэдна паўплывала на псіхіку Рудзі Кабела. Ён фанатычна беларускі нацыяналіст і антыкамуніст. Увесь час жыве ў прадчуванні набліжэння камуністычнай небяспекі. Збірае аграмадны арсенал і рыхтуе сабе прыпынішча на ферме ў бязлюднай аколіцы на выпадак сусветнай катастрофы і падзення заходняй цывілізацыі.

Кабелава манія праследу паступова пераходзіць у шаленства, у чорны вір пападае і аўстраліец Дэлані, які закахаўся ў дачцэ Кабела.

Хаця акцыя рамана ўцягвае чытача сама па сабе, мяне цікавіла перш за ўсё тое, як Кенелі спраўляецца з беларускай гісторыяй. Адразу ж кажу: надзіва добра. Памылкі, якія знаходзім у кніжцы, вынікаюць перш за ўсё з няведання гісторыі Беларусі польскім перакладчыкам.

Перакладзены з беларускай або нямецкай на англійскую, а з яе на польскую мову, беларускія прозвішчы і назвы набываюць дзіўнае гучанне. І так, замест „Białoruska Centralna Rada” маем „Białoruska Rada Główna” і „Białoruski Komitet Centralny”, замест „Białoruska Samoobrona” — „Białoruskie Siły Obronne”. Беларуская сялянска-работніцкая грамада называецца ў кніжцы „Gramada”, хаця па-польску можа быць або „Gromada”, або „Hromada”. „Franz Kuschel” гэта Францішак Кушаль (Franciszek Kuszel), дарэчы, маёр Войска Польскага. На маю думку, прозвішча загаловачнай сям'і, якое, па-англійску пішацца „Kabbelski”, па-польску павінна перадавацца як „Kabielski”. Двайное „b” нехарактэрнае ні беларускай, ні польскай мовам, а ў англійскай арфаграфіі служыць толькі забяспечанню вымаўлення „а”.

Падобныя заўвагі можна б множыць, але гэта ўсё дробязі. Адзінай больш сур'ёзнай аўтарскай памылкай з'яўляецца тое, што ён лічыць міжваенную польска-савецкую мяжу лініяй Керзана. Нязгоду выклікае нешта іншае. Кенелі ўцягвае беларускіх акупацыйных дзеячаў у адказнасць за знішчэнне яўрэяў. Не буду даказваць, што беларусы не прымалі ўдзелу ў гэтым знішчэнні, бо гэта была б няпраўда. Аб тым, што некаторыя памагалі немцам, дый ахвотна, ведаю хаця б з сямейных расказаў.

Але Кенелі робіць Станіслава Кабельскага маральна адказным за падрыхтоўку знішчэння яўрэяў у горадзе, якога быў беларускім адміністратарам. Кабельскі прытым больш рашучы ў сваіх дзеяннях за саміх немцаў. Чытаючы аб тым, варта помніць, што ніколі ніводзін з акупацыйных беларускіх палітыкаў не быў афіцыйна абвінавачаны ў нечым падобным. Справа нават не ў маралі гэтых людзей, толькі ў тым, што немцы не дапускалі тубыльцаў да ўлады. Такім чынам аўстраліец Кенелі выконвае ў сваёй кніжцы гэтую самую аперацыю, што амерыканец Уільям Стайран у кніжцы „Выбар Сафіі”, якая столькі крыві напсавала палякам. У гэтай кніжцы паляк абгрунтоўвае тэарэтычна канчатковае рашэнне яўрэйскага пытання за немцаў. Хочучы-нехочучы пачынаем падазраваць, што паскудныя заходнікі ўсялякімі спосабамі скідаюць віну на дзікіх славянаў, каб зняць адыёз з блізкіх сабе немцаў. Немцы, як вядома, яўрэяў ратавалі, аб чым сведчыць „Спісак Шындлера”.

Кенелі не скрывае, што адзінай крыніцай яго ведаў аб Беларусі была кніжка Джона Лофтуса „Беларуская тайна”. Лофтус працаваў пракурорам амерыканскага Бюро па спецыяльных даследаваннях Дэпартамента юстыцыі. У гэтым бюро быў каардынатарам сакрэтных росшукаў пад назвай Беларускі праект, у рамках якога вяліся пошукі ў ЗША беларусаў — удзельнікаў у ваенных злачынствах. Лофтус не здолеў выступіць з ніякім афіцыйным абвінавачаннем супраць каго-небудзь. Усё-такі напісаў кніжку, у якой усё тое, чаго не здолеў даказаць, прадставіў як гістарычную праўду. Кніжка набыла пэўную вядомасць, на яе аснове зняты быў серыйны фільм з Тэлі Саваласам (папулярны Коджакам) у галоўнай ролі.

Што ж, літаратурная фікцыя звычайна больш уплывае на бачанне нейкай справы публікай, чымся салідныя навуковыя даследаванні. Таму кніжку Кенелі варта прачытаць хаця б таму, каб ведаць, што нехта можа бачыць беларуса як шалёнага нацыяналіста.

**Алег Латышонак**

*Thomas Keneally, *Rodzinne szaleństwo*, Wydawnictwo Alfa, Warszawa1996.

# „Менская вясна 1996”*

Толькі што выйшла з друку кніжка, прысвечаная падзеям у Менску, якія праходзілі там вясною гэтага года. Кніжку, пры фінанасавай падтрымцы Фонду Стэфана Баторыя, выдалі польскае выдавецтва „Koło Podkowy” з Падковы-Лесьнай і рэдакцыя менскага штотыднёвіка „Наша ніва”. Падрыхтоўка матэрыялаў, рэдакцыя і тэхнічная апрацоўка былі зроблены супрацоўнікамі „Нашай нівы”. Праўдападобна ў планах рэдактара Сяргея Дубаўца кніжка мела адыграць ролю дакумента эпохі, якой яна была прысвечана. Апрача хронікі падзей ад 15 сакавіка да 22 чэрвеня, чарговыя раздзелы паказваюць паасобныя антыпрэзідэнцкія дэманстрацыі на вуліцах Менска вясной г.г., арышты іх удзельнікаў і сітуацыю людзей, якія найдаўжэй пабывалі ў лукашэнкаўскіх турмах. Змест кніжкі — гэта ў асноўным артыкулы, якія друкаваліся ў апазіцыйных часопісах — „Свабодзе”, „Нашай ніве”, „Имени”. Прадстаўляе яна пункт гледжання выключна апазіцыі. Гэта свет, які не існуе ў рэчаіснасці, хаця ўсе падзеі паданыя там факты праўдзівыя. Змест кніжкі зроблены паводле логікі ўрадавых сродкаў масавай інфармацыі, дзе паказваецца толькі тое, што думае „бацька народа” і яго „вертыкальшчыкі”, хаця яно не мае нічога супольнага з рэчаіснасцю. „Менская вясна” паказвае надта просты вобраз палітычнай сітуацыі ў сталіцы Беларусі ў першай палове гэтага года, дзе з аднаго боку стаіць жадаючы дэмакратыі і свабоды народ, з другога — Лукашэнка са сваімі прэтарыянцамі. Чытач не знойдзе там адказу на асноўныя пытанні, якія ставяцца ў суседніх краінах, калі гутарка ідзе пра Беларусь, а гэта: якім з'яўляецца грамадства, якое ў дэмакратычных выбарах аддало ўладу закамплексаванаму чалавеку, звычайнаму дэмагогу, а пасля двух гадоў кампраметуючага кіравання краінай гатовае даць яму яшчэ большую ўладу. Кніжка не адлюстроўвае бачання палітычнай сітуацыі Беларусі прыгнятаючай большасцю грамадзян Рэспублікі, якія лічаць Лукашэнку сваім прэзідэнтам. Апазіцыя, якая найчасцей забывала пра гэты факт, прайгравала кожную палітычную канфрантацыю з апаратам улады.

Кніжка таксама не паказвае элементаў рэжымнай прапаганды, вельмі прымітыўнай, але, як аказваецца, у псіхалагічных і палітычных умовах Беларусі надта эфектыўнай. Аргументы, якія, напрыклад, пераканалі б палякаў, не выклікаюць ніякага ўражання сярод беларусаў і наадварот — беларуская афіцыйная прапаганда прывяла б палякаў да рэвалюцыі. Змест „Свабоды” ці „Нашай нівы” ёсць успрымальны для 15-20-ці працэнтаў беларускага грамадства. Апошніх апазіцыя заўсёды пакідала для апрацоўкі ўсялякім Заматаліным.

Выданне „Менскай вясны” ў Польшчы і на беларускай мове зусім незразумелае. Кніжка такога зместу патрэбна на англійскай ці польскай мовах. У Польшчы і іншых краінах Еўропы, дзе беларуская апазіцыя шукае падтрымкі, аргументы рэдактараў „Свабоды” ці „Нашай нівы” будуць больш зразумелыя, чым у Менску. **(рэд.)**

**Менская вясна 1996*, Podkowa Leśna—Менск 1996, сс. 142, рэд. С. Дубавец.

# Новыя вершы

**Зьніч**

## С. Яновіч

... дыктатараў і дэма(н)кратаў —
ва ўсе „вялікія” часы —
яднаў журботны сьмех Сакрата —
паэта йскрыстае красы...
няўпынны жарт — яго стыхія...
рагочуць добрыя й ліхія:
там, дзе краса й дасьціпны жарт,
не сумнявайся — там Сакрат...
ён нават з чорнаю бабуляй
вядзе вясёлы дыялёг:
жахі за-лёсавых дарог
яго шчасліва абмінулі...
чужынец ганьбы і хвалы
сьмяецца й там — дзе
сьмех малы...

**Барыс Руско**

## Смак пушчы

У глыбіні пушчы
ўсё ў адной шарэнзе,
усё ўраз,
і адзін вялікі дых,
а ў ім толькі заклікаў
і толькі жыцця,
што я на калені стаў
прад візантыйскай іконай.
Час пад нагамі,
і толькі зіхаціць птушыны позірк.
Сцяна лясная плоская,
як вобраз на крывізне неба.
Куды ісці,
калі ў палітры красак
смак вечны.

## У пушчы

Дарога вядзе ў пушчу,
на малітоўны круг,
дзе зелень алтаром,
а ў гомане Усявышні,
а церцякі— сукі,
а раса — чырвань болю,
а на падносе пень —
сярэбранік Іуды.

## Бяссонніца

Хачу зысці з вачэй
пад балдахінам ціны,
дзе ў скоках матылі,
і ад хады святла
трашчаць
сасновыя іголкі.
Пусці ў світанне,
мая доўгая ноч.

**„Улас”**

## Неба

Калі глядзіш у начное неба,
усеянае зоркамі, на чорна-сіні фон,
Тады табе, звычайнаму спажыўцу хлеба,
Здаецца: вось які вялізны парасон!

Але калі ўжо крыху ведаеш пра Космас
І Зямлі шукаеш месца ў ім,
Тады пачуеш словы невыносныя,
Што мы ў ім нязначныя зусім.

Сядзім як на пылінцы ў той прасторы,
Загубленай у бязлікасці нябесных цел.
Для іншых мы планет такія ж зоры,
Якія вось аглядваем цяпер.

Мы, на Зямлі, прыдумалі багоў безліч,
Ды лічым, што яны для ўсіх планет.
Пасля накінулі мы іх народам дзікім,
Ды хочам, каб прызнаў іх увесь сусвет.

А можа ў Космасе такія ж ёсць планеты,
Дзе гэтак жа прыдумалі сваіх багоў?
І гэтаксама думаюць: „Яны ўсяму сусвету”,
Ды намагаюцца прышчапіць іх наўкол?

Чые багі сапраўдныя, хто скажа?
Ці знойдзецца у Космасе такі суд,
Які дылему гэтую развяжа?
— Так, Універсальны Бог рашае тут!

# Культура беластоцкай вёскі — быць ці не быць

**У днях 14—15 кастрычніка г.г. адбыўся семінар, прысвечаны культуры беластоцкай вёскі, яе традыцыям, сённяшняму дню і перспектывам на будучыню. З Зыгмунтам ЦЯСЕЛЬСКІМ, ініцыятарам гэтага „сейміка культуры", галоўным інструктарам па народнаму мастацтву і гінучых прафесіях у Ваяводскім асяродку анімацыі культуры, гутарыць Ада ЧАЧУГА.**

***— Якія мэты вы ставілі, арганізуючы такі семінар на Беласточчыне?***

— Як вядома, па прапанове Міністэрства культуры і мастацтва ў будучым годзе мае адбыцца кангрэс культуры вёскі. Наш семінар адбыўся ў рамках падрыхтоўкі да кангрэса. На семінары мы хацелі звярнуць увагу на культурны краявід беластоцкай вёскі, які мы можам запрапанаваць. Мы ж цяпер надаем прыярытэтнае значэнне агратурызму як важнай галіны гаспадаркі. А навошта турыст едзе? Трэба ж яму нешта падрыхтаваць, паказаць нашу спецыфіку. А яна гіне ў вачах, і ніхто не дбае пра тое, каб яе захаваць. Уваходзяць у жыццё новыя плыні, тэндэнцыі. І тады беднаму турысту застаецца адно прырода.

***— Што зробіш, калі жыццё ідзе наперад шпаркім тэмпам!***

— Але ўжо Гуга Калонтай звярнуў увагу на тое, што народная культура мае велізарную вартасць, бо яна праўдзівая, аўтэнтычная. І менавіта тады пайшлі ў народ збіральнікі народнай творчасці. Змяняюцца часы, моды, але ў народзе традыцыі захоўваюцца найбольш трывала: народ не меў доступу да двароў, праз якія ішлі новыя заходнія ветры.

***— Якое практычнае значэнне меў ваш семінар?***

— Мы гэты семінар хацелі накіраваць да людзей на месцы — перш за ўсё да самаўрадаў, да дзеячаў рэгіянальных таварыстваў, культурных і асветных пляцовак, агратурыстычных арганізацый. Менавіта ім хацелі мы ўсведаміць, што яны сёння маюць найбольшыя магчымасці зрабіць нешта ў гэтым напрамку. Такім чынам, семінар быў накіраваны на практыку дзеяння.

***— У першы дзень удзельнікі семінара наведвалі прадстаўнікоў т.зв. гінучых прафесій.***

— У Чорнай-Касцельнай мы наведалі кузню каваля Мечыслава Гулевіча і ганчарскія майстэрні братоў Пяхоўскіх і Яна Кудрэвіча. Яшчэ сорак гадоў таму Чорная-Касцельная была найбольшым ганчарскім цэнтрам на Беласточчыне. Посуд, які выраблялі з гліны, быў неабходны дзеля штодзённага карыстання ў вясковых гаспадарках. А былі гэта збаны, чыгуны, макотры, слоікі, формы для пірагоў, гладышкі для малака, дваякі, міскі, кубкі і шмат чаго іншага. Сёння ў Чорнай-Касцельнай працуюць толькі дзве майстэрні, а некалькі працуе ад часу да часу.



У Лапчыне мы наведалі майстэрню па вырабу лыжак, у Янаве — школу дзвюхасновавага ткацтва (прафесіянальная, непублічная, вядзе яе самаўправа), наведалі дом народных творцаў у Пятра Шалкоўскага ў Саколцы.

***— Скажыце, ці штосьць яшчэ з гэтага будзе?***

— Усё залежыць ад нашага зацікаўлення. Нішто не захавае гінучых прафесій так, як попыт на іх вырабы. Прамысловасць замяніла іх у штодзённым карыстанні. Яны як бы страцілі сэнс існавання. Але ж маюць іншыя якасці. Няхай сёння гаспадыня і не варыць у гліняным гаршку (хаця нават да 50-х гадоў у раёнах Аўгустоўскай пушчы, Гродна, Ваўкавыска ў іхварылі), але хай ён стаіць у яе як рэлікт мінулага!

***— Ці на другі дзень у Супраслі адбывалася нейкая дыскусія?***

— Было шэраг дакладаў на тэму народнага мастацтва і рамяства. Прэзэс кааператыва „Народнае мастацтва" Аляксандр Пугацэвіч (між іншым, ваш карэспандэнт) гаварыў аб народных вырабах як прадмеце гандлю. Падкрэсліў ён, якая пагроза народным майстрам ідзе з боку прамысловасці. Узяць хаця б драўляныя лыжкі. Калісь яны прадаваліся тут і за мяжой. А цяпер прадаюцца ледзь на некальных рынках. Няма экспарту — няма сэнсу рабіць. Раней большасць вырабаў ішла на Захад. У Лапчыне, напрыклад, раней было столькі „лыжкароў", колькі было халуп, а цяпер усяго двое, ды і то працуюць нерэгулярна.

Цікавы быў даклад Яна Бернада з Любліна пра фальклор Беласточчыны — „сабе і на экспарт". Калісь народныя песні, абрады суправаджалі чалавека ўсё жыццё: калі ён нарадзіўся, калі яго хрысцілі, жанілі, калі жаў жыта, касіў сена, святкаваў і паміраў. А сёння — дзеля гэтага павінен быць калектыў. Трэба ўсведаміць сабе, ці сёння гэта ёсць унутраная патрэба чалавека, ці толькі ахвота паказаць сябе перад людзьмі і светам.

Я лічу, што ў справе культуры на вёсцы неабходная мэтанакіраваная дзейнасць. Можа пры дапамозе самаўрадаў мы яшчэ зможам выхаваць моладзь у пашане да свайго мінулага, у свядомасці, што культурныя традыцыі свайго асяроддзя — гэта важныя элементы, дазваляючыя на пачуццё тоеснасці. Шкада, што не прыехаў Дарак Фіёнік са сваёй „малой Айчыны" — са Студзіводаў, а меў жа быць. Мне здаецца, што сярод нацыянальных меншасцей гэты клопат пра свае традыцыі значна большы.

***— ... Палякі не мусяць так старацца!***

— Менавіта. Вынікае гэта з пагрозы, што меншасці могуць расплыцца ў польскай культуры і страціць сваё нацыянальнае аблічча.

***— У Супраслі Вы таксама выступілі з дакладам?***

— Так. Я гаварыў пра месца традыцыйнай народнай культуры ў сучаснай культуры рэгіёна і прабаваў прадставіць праграму дзеяння. Чалавек сам сабе мусіць адказаць на пытанне: ці павінен ён слепа пераймаць заходнюю культуру, ці трымацца моцна за сваю, але зменную, сучасную ды ўсё ж выпльваючую з уласных традыцый.

***— Сёння, калі людзі, прабываючы доўгі час у Амерыцы, напрыклад, вяртаюцца на радзіму, дзівяцца: „Тут жа другая Амерыка! Нічога не засталося свайго. Усюды англійскія надпісы". А ў Каталоніі ў мінулым годзе я бачыла толькі надпісы на каталонскай і іспанскай мовах, а англійская была толькі пры абмене валюты. А вядома ж, што Іспанія — член Еўрапейскай уніі і НАТО!***

— Вось менавіта! Павучальны гэта для нас прыклад. А што ў нас дзеецца ў архітэктуры вёскі?! Немец дык будуе дом з цэнтральным ацяпленнем і ваннай, але мае ён звонку выгляд „хаты пад страхой". А ў нас мураваныя, некалькіпаверховыя будынiны зусім сапсавалі вясковы краявід. Лічу, што павінна быць захавана традыцыйная архітэктура будынкаў, храмаў, каплічак, ды каб не пераносіць гэта ў скансэн, а надаць ім функцыі ў асяроддзі. У вёсцы сёння не застаецца нічога драўлянага і найгорш, што мы пазбаўляемся ад яго свядома, замест хадзіць каля гэтага. Трэба вучыць чалавека ад дзіцяці, у школах, у гуртках зацікаўлення, у дамах культуры, прэсе, што трэба шанаваць свае традыцыі. Гэта ж датычыць і фальклору.

***— Які грамадскі водгук меў семінар па культуры вёскі? Шанаваць сваё, роднае — гэта ж праява еўрапейскасці, на якую мы так часта спасылаемся.***

— Еўрапейскасць? Мы былі вельмі расчараваныя, што так слаба зацікавіліся нашым семінарам прадстаўнікі самаўрадаў, рэгіянальных таварыстваў, а асабліва Ваяводскага сейміка, хаця яго старшыня патранаваў гэтаму мерапрыемству. Нават старшыня камісіі культуры Ваяводскага сейміка не паказаўся.

***— Дзякую Вам за размову, спадзеючыся, што мо ў будучыні будзе лепш.***

**Ада Чачуга**

*Фота аўтара*

# Фестываль становіцца падзеяй

*(працяг са стар. 1)*

раскіданае па сцэне, супадала з характарам мерапрыемства. Добра падумалі арганізатары, запрашаючы вядомых бардаў: Сяржука Сокалава-Воюша, зараз журналіста Радыё Свабода, ці Алеся Камоцкага. Дарэчы, прадстаўлялі іх як бацькоў бардаўскай беларускай песні. Іх кароткія, але горача ўспрынятыя выступленні напаміналі пра традыцыі.

— Ці ведаеш, Сяржук, што твае песні спяваюць у нас на вяселлях, — гаварылі сябры легендарнаму Воюшу.



*Сярод публікі былі беларускія дзеткі.*

На жаль, ад двух гадоў не можа даехаць самы арыгінальны, на маю думку, бард Беларусі Віктар Шалкевіч. Ягоная творчая манера была прысутная ў выступленнях маладых беларускіх выканаўцаў.

## „Бардаўская восень'96",

як адзначылі многія, была найцікавейшая і найбольш падрыхтаваная. Усе выканаўцы паказалі высокі ўзровень майстэрства. Можа не хапала толькі новых, арыгінальных праблiскаў. Відаць, жыццё ў Беларусі не спрыяе творчым пошукам. А заангажаваная, бунтарская творчасць міне разам з дыктатурай Лукашэнкі.

Дарэчы, у сумным настрої пакідалі слухачы залу Бельскага дома культуры. Фестываль завяршыўся на кранальнай ноце — Юрка Асеннік з гарадоцкім рок-гуртом „Брага" падрыхтаваў песні на словы Марылькі Базылюк-Сaснюк, незабыўнай паэткі і энтузіясткі бельска-беларускага руху.

**Ганна Кандрацюк**

*Фота аўтара*



*Бельскі бард Дарафей Фіёнік.*

**Максім Танк**

# Дзённікі

***(фрагменты)***

## 1979

**26.I.** А ў паэзіі нашай — неверагодная нудота, ад якой не ратуе ніякае мастацкае, стылістычнае ўпрыгожванне.

Пайду на выстаўку Міхаіла Савіцкага, аб якім з захапленнем піша Васіль Быкаў.

**30.I.** Учора цэлы дзень імжыў дождж, а сёння разгулялася завея. Званілі Уладзімір Караткевіч і Мікола Чарняўскі, што вельмі цяжка хворы муж Ларысы Геніюш. Прыслалі карэктуру майго чацвёртага тома і зборніка „Прайсці праз вечнасць", у якім — зараз бачу — шмат слабых вершаў. Ратуе яго, можа, паэма пра Дворнікава, ды казка пра Мураша-Бадзіню. Званіў М. Мінковіч. Запрашае на сваё 60-годдзе. Чытаю М. Жэпінскага пра Гойю. Цікава, што ён больш як на сотню гадоў апярэдзіў сучасных турпістаў, пісаў, што нельга ідэалізаваць прыгажосці.

Гаварыў з А. Л. Петрашкевічам пра Л. Геніюш. Трэба будзе пад'ехаць да яе і аказаць дапамогу ў цяжкім становішчы, у якім яна зараз апынулася.

**8.II.** Выклікаюць у Маскву на пахаванне М. С. Ціханава. Не дай Божа, ні хаваць блізкіх і родных, ні выступаць на іх хаўтурах.

**16.II.** Вярнуўся з сустрэчы з выбаршчыкамі. Быў у Смаргоні, ашмянскім калгасе „Маяк", у Іўі, Воранаве, Астраўцы. Страшэнна стомлены вярнуўся дамоў.

Доўга не мог заснуць. Нейкія болі і Любашы дакучалі ўсю ноч. Хаця б не аднавілася пасля аперацыі яе старая хвароба.

Трэба заўтра даведацца, што чуваць у Юркі Гаўрука. Ці паклалі яго ў паліклініку Лечкамісіі.

**19.II.** Учора памёр Ю. Гаўрук — чалавек цудоўнай абаяльнай душы, выдатны перакладчык. Колькі ж за апошні час не стала ў нас выдатных людзей! За якую кару, бяда — за бядой, бяда — за бядой увальваецца на плечы нашага народа. Ледзь паспяваем капаць магілы.

**23.II.** Насталі прыгожыя прадвесныя дні: ноччу — мароз, а днём — светла, сонечна. І шмат снегу. Дарогі нагадваюць прабітыя ў гурбах тунелі. Разнаколернымі іскрамі гараць абняўшыся бярозы. Даўно ўжо не бачыў такой першароднай чысціні прыроды. Сям-там віднеюцца ласіныя і заячыя сляды.

Прачытаў досыць нудныя дзённіка Т. Мана. Зноў узмацнілася арытмія. Мо прыйдзецца легчы на абследаванне.

Уладзімір Калеснік казаў, што з Вільні прыязджаў нейкі доктар Кутарга, які, быццам, ведае мяне з даваенных гадоў. Пакінуў мне запрашэнне на юбілей Віленскага універсітэта. Ніяк не прыпомню, хто б гэта мог быць.

**5.III.** Званілі з выбарчай акругі, што я аднагалосна выбраны дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР.

Ізноў узяўся перагрэсаць свае архівы, каб падабраць матэрыялы для апошняга збору сваіх твораў. Набралася неверагодная колькасць аднатыпных і шаблонных артыкулаў, выступленняў. Аж страх падумаць: колькі ўсё гэта змарнавала і забрала ў мяне творчага часу!

**14.III.** Атрымаў газету „Сельмашавец", якая перадрукавала маю паэму пра М. Дворнікава. Маладцы, што дагадаліся гэта зрабіць. Зноў хаўтурны звон: памёр К. Сяўрук. Апошняя наша сустрэча з ім была ў яго нясвіжскай майстэрні, цесна заstaўленай рамамі, палотнамі, эскізамі... І так не стала ў нас яшчэ аднаго харошага Чалавека і самабытнага мастака. Барыс Сачанка быў у Лечкамісіі. Кепскія — казаў — справы ў Міколы Ткачова. Рак. Трэба пазваніць Пятру Міронавічу (Машэраву — рэд.). Няўжо няма ніякага ратунку? Можа паслалі б яго ў Маскву?

**22.III.** Быў у М. Ткачова. Кансультаваў яго праф. П. Кузюковіч. Стан здароўя — безнадзейны.

Марудна набліжаецца вясна. У калгасах не хапае кармоў. Кожны год паўтараецца адно і тое ж.

Шкада, што я толькі праз дзесяць гадоў, як мне прыслаў А. Венцлава, прачытаў яго ўспаміны. Прачытаў іх не адрываючыся, так жыва і цікава яны напісаны. Шкада, што не паспеў яму пры жыцці аб гэтым сказаць.

***(працяг будзе)***

# За сваё трэба змагацца!

Прачытаўшы ў 43 нумары „Нівы" ад 27 кастрычніка г.г. публікацыю Яўгена Мірановіча „W Polsce trzeba mówić po polsku", я нічуць бы не здзівіўся, калі б не факт, што здарэнне мела месца ў час тэлефоннай размовы. Значыцца мы, грамадзяне Рэчы Паспалітай, знаходзімся пад нейкім кантролем. Ці гэта значыць, што нам нельга свабодна гаварыць на роднай гаворцы? А мо і нельга хадзіць дзе нам спатрэбіцца, ці сябраваць з выбранымі прыяцелямі? Хто нас праследуе? У імя чаго? І ўрэшце трэба паставіць пытанне: ці такі асобень мае на гэта маральнае права? Мы, усе грамадзяне Польшчы, лічымся цывілізаваным народам. Знаходзімся ў свабоднай дэмакратычнай краіне. Нястомна дабіваемся ўваходу ў структуры НАТО і аб'яднанай Еўропы. Ці таксама тады, калі даб'емся гэтай мэты, будзем гаварыць кожнаму з-за мяжы грамадзяніну чаму ён у Польшчы не гаворыць „po polsku"?

На маю думку, паважанаму Я. Мірановічу гаварыў пэўна ў трубку нейкі псіх ці маньяк. Бо здаровы і адукаваны чалавек не адважыўся б уключыцца ў чужую размову і рабіць такую заўвагу. Мы, беларусы на Беласточчыне, ужо прывыклі, што нас называюць «кацапамі» zza Buga". Мне асабіста не ўражваюць такія выказванні. Як гаварыў, так і гаварыць буду ў хаце, цягніку ці панадворку. Такія сцэны ў аўтобусе ці на вуліцы мне добра вядомыя, бо сам з гэтым сустракаўся ў час падарожжаў у цягніках. Хопіць праехаць цягніком па чыгуначнай лініі Чаромха—Беласток і прыглядзецца, як рэагуюць некаторыя на гаворку вясковых жанчын з ваколіц Рыгораўцаў, Падбелля ці нават Чаромхі. Адварочваюцца быццам ад заразы! А нядаўна бачыў, як з суседняга купэ, у якім я ехаў са сваім калегам і гаварыў „po kacapsku", нейкі пасажыр уцёк у другі бок вагона. Што можна сказаць аб такім чалавеку? Напэўна нічога добрага.

Не забуду я свайго калегу па рабоце Кастуся Шыманюка з Грабаўца, што каля Дубічаў-Царкоўных. Чакаю я свайго у Гайнаўку на станцыі Варшава-Заходняя, як раптам загрымеў голас перада мною: „Здароў, Валодзька! І ты едзеш?" Калі я падняў вочы, убачыў свайго добрага знаёмага калегу. Ён і надалей працягваў размову па-„нашаму". На нас глянулі з іншых перонаў незычлівым позіркам, але ніхто не зрабіў закіду, чаму не гаворым „po polsku". Тое, што думалі аб нас пасажыры з перонаў, нас не хвалявала. Звярнуў я толькі ўвагу прыяцелю, каб не так галасна гаварыў (у Кастуся сапраўды гучны звонкі голас) і мы надалей гаварылі „своим языком".

Гэты прыклад паказаў я таму, каб чытач зразумеў, што ёсць сярод нас многа людзей, якія не цураюцца сваёй мовы і прыналежнасці. Такіх трэба цаніць! Нам, невялічкай жменьцы беларускай меншасці ў краіне, трэба зразумець, што толькі мы самі вымушаны стаяць за свой быт, за сваю культуру.

І таму трэба супольнымі сіламі за гэта змагацца! **Уладзімір Сідарук**

# Брак працы каштуе

У Раённым ведамстве працы ў Бельску-Падляшскім зарэгістраваны 3 365 беспрацоўных. Ад вясны паменшала іх амаль на 900 асоб. Працэнтны паказчык беспрацоўя ў Бельскім раёне — 10,1%, а ў самім горадзе — 12,7%. У Беластоцкім ваяводстве меншым беспрацоўем могуць пахваліцца толькі Сямятычы.

Кіраўнік раённага ведамства працы Казімеж Прус паінфармаваў, што бюджэт яго ўстановы заключаецца сёлета сумай 1 064 000 злотаў. Гэта менш на 50 тысяч, чымсьці летась. Існуе цяпер тэндэнцыя, каб абмяжоўваць выдаткі на інтэрвенцыйныя работы, таму што не выконваюць яны сваёй асноўнай ролі — не актывізуюць беспрацоўных. Звычайна, пасля шасці месяцаў такога занятку, беспрацоўныя зноў карыстаюцца сацыяльнай дапамогай. Замест гэтага, трэба павялічваць асігнаванні на розныя курсы і дабівацца выгадных банкаўскіх крэдытаў на развіццё гаспадарчай дзейнасці.

Апошнім часам 16 беспрацоўных у Бельску скончылі камп'ютэрныя курсы і палова іх ужо працуе. Трынаццаць чалавек набылі на індывідуальных курсах новую кваліфікацыю. З гэтага ліку дзесяць — таксама знайшлі працу. Пяць чалавек узялі ў Кааператыўным банку пазыку на гаспадарчую дзейнасць. Сплачваць дапаможа Раённае ведамства працы.

Адна з больш важных задач ведамства працы — элімінацыя злоўжыванняў у карыстанні сацыяльнымі дапамогамі. У Бельскім раёне ў гэтым годзе выдалі на гэта ўжо 6,5 мільёна, а да канца года сума вырасце ў 10 мільёнаў. У выніку праведзеных кантроляў, права на ўспамогу страцілі там 672 асобы, якія апрача гэтага працавалі нелегальна або з'яўляюцца ўласнікамі гаспадаркі.

**М. В.**

# Бомба ў школе

Разгарэлася ва ўсім Беластоку барацьба з парнаграфіяй. Група актывістаў, абаронцаў маральнай чысціні рознага ўзросту, рушыла на праверку кіёскаў, у якіх прадавалася тая, менш ці больш уплываючая на такога тыпу эмоцыі, літаратура. Уручалі яны пісулькі кіяскёрам, у якіх паведамлялася, што тыя дзейнічаюць супраць маральнасці беластачан, прадаючы часопісы „парнаграфічныя" і інфармавалі, што справа пагражае пракуратарскімі санкцыямі. Пракуратура пакуль што адмовілася абвінавачваць гандляроў газетамі, парашкамі і іншай драбязой у зламысным дзеянні супраць этыкі па простай прычыне — тыя ўсе часопісы выдаюцца легальна, а калі хто не хоча, каб яны мелі ўплыў на яго маральнасць, хай іх не купляе і не дае сваім дзецям. Тлумачэнне „парнаграфіі" мае аж сто дэфініцый, і ўсе няясныя. У беластоцкіх кіёсках са свечкай не знойдзеш цяпер тае парнаграфіі.

І не падумаў я, што траплю на след вышэйзгаданай. Зусім спакойна купіў я сваёй пляменніцы, пятнаццацігадовай Дзіяне, „Kalendarz nastolatków", як найбольш адпаведны падарунак, бо папраўдзе не вельмі мне вядома, што такой дзяўчынцы-дзеўцы купіць. Ведаю, што лялькамі ўжо не гуляе, парфумы не ўжывае, а купіць „Оху" на юнацкія прышчы гэта нахабства. А такі каляндар прыдасца. Вельмі здзівіла мяне, калі Дзіянін бацька, чырвоны як бурак, праз тыдзень кінуў мне той маладзёжны каляндар на пісьменны стол, не гаворачы ні слова. Пасля з сябе выдушыў: „Ну, сам чытай, ты... obleśny staruchu!" І трэснуў дзвярыма. Давай я чытаць тое, што сам купіў сваёй малалетняй сваячцы, бо выдаў на гэта аж 18 злотаў.

Выдаўцом гэтай тоўстай каляровай кнігі ёсць вядомы ўсім з прэзідэнцкай кампаніі Лэшак Бубэль. А „бубэль", які ён запрапанаваў польскай моладзі, невядома ў якой колькасці да яе трапіў, бо ёсць у кожным кіёску (не пададзены тыраж). Складаецца ён з сечкі, сабранай з кніжак, часопісаў для моладзі і дарослых (вельмі дарослых), з мудроў (графіці), са спыткаў. Калі б мне паказалі змест, а не сказалі, што гэта для „наццацігадовай" моладзі, я доўга думаў бы, ці класці гэта на прылаўкі кіёскаў. Хутчэй пусціў бы ўсю тую „парнаграфію", ад якое адмовілася спалоханыя прадаўцы.

„To najbardziej cenię w Broni, że za bardzo się nie broni..." — гэта з самога пачатку, з вераснёўскіх старонак календара. Пасля: „Пазнаёмлюся з прыгожым трыццацігадовым, або куплю добры вібратар". „Не бяруся за Ружу, няхай яе іншыя абслужаць". «Хлопец да дзяўчыны: „Ці звала б ты дапамогу, калі б я цябе пачаў гвалтаваць?" — „А нашто, табе трэба дапамога?"» Не буду больш прыводзіць цытатаў, бо гэта маглі б мне і „Ніве" палічыць за прапагандаванне парнаграфіі і псаванне нораваў малалеткаў. Можа толькі пра Сярожку, без перакладу, каб паказаць майстэрства рыфмы: «Błaga dziewczynę Sergiuszek: „Nie ściskaj, bo się uduszę!" — I myśli: „Skąd ta ruda ma tyle siły w udach?"» Столькі ўсяго падобнага на больш за 250 старонках (без нумарацыі), з „салонымі" малюнкамі, сапраўды вельмі смешнымі, і ўсё пра тое, пра што бацькі дзецям не скажуць, а і самім у большасці тое праз рот не праціснецца. Найбольш жартаў пра школу і настаўнікаў. Бомба ў школе! — „Школа гэта с..ч — ходзіш, бо мусіш."

Я мяркую, што гэта помста Лешка Бубэля на тых, што не хацелі на яго аддаць свой голас. А, можа, гэта новая выбарчая кампанія? Праз пару гадоў тая моладзь пойдзе да урнаў. „Spisz cnotę na raty, bo wejdziesz do mej chaty!"

Мой сваяк мне цяпер „дзень добры" не кажа, мне, „агіднаму старэчу". Ну, што ж, хай я буду такім, бо ўсё рагачу над „гумарам" з „Kalendarza na100latków". Трапіў Бубэль пад мой узрост.

**Вандал Арлянскі**

# Позірк у мінулае

**10 лістапада**

1444 г. — султан Мурад II перамог пад Варнай польска-венгерскія войскі пад камандаваннем Уладзіслава Ягелона.

1483 г. — нар. Марцін Лютэр, нямецкі рэлігійны рэфарматар.

1668 г. — нар. Франсуа Куперэн, французскі кампазітар.

1759 г. — нар. Фрыдрых Шылер, нямецкі паэт.

1887 г. — нар. Арнольд Цвейг, нямецкі пісьменнік.

**11 лістапада**

296 г. — памёр Абу-Мена, фрыгійскі салдат, святы вялікамучанік егіпецкіх хрысціян.

1675 г. — нямецкі вучоны Вільгельм Лейбніц абнародаваў свой метад дыферэнцыяльнага рахунку.

1821 г. — нар. Фёдар Дастаеўскі, расейскі пісьменнік.

1918 г. — Польшча аб'явіла незалежнасць.

1918 г. — у вагоне ў лесе пад Кампень падпісана пагадненне паміж Германіяй і Антантай канчаючае I сусветную вайну.

1928 г. — нар. Карлас Фуэнтэс, мексіканскі пісьменнік.

**12 лістапада**

1840 г. — нар. Агюст Радэн, французскі скульптар.

**13 лістапада**

1618 г. — сінод у Дардрэхце прыняў вучэнне Кальвіна ў аснову Рэфармаванага касцёла.

1850 г. — нар. Роберт Стывенсан, шатландскі пісьменнік.

1907 г. — француз Поль Карню ўпершыню адарваўся ад зямлі на верталёце.

1970 г. — вялікая паводка ў дэльце Ганга, якая паглынула сама менш 200 тыс. смяротных ахвяр.

**14 лістапада**

565 г. — памёр Юсцініян I Вялікі, візантыйскі імператар.

1263 г. — памёр Аляксандр Неўскі, ноўгарадскі вялікі князь.

1745 г. — нар. Роберт Фултан, амерыканскі канструктар першага парахода.

1831 г. — памёр Георг Гегель, нямецкі філосаф.

1840 г. — нар. Клод Манэ, французскі мастак.

1935 г. — нар. Хусейн, іарданскі кароль.

1940 г. — нямецкія бамбардзіроўшчыкі разбурылі англійскі горад Ковентры.

1946 г. — памёр Мануэль дэ Фалья, іспанскі кампазітар.

1968 г. — у шпіталі ў Генце выканана першую ў Еўропе перасадку лёгкіх.

1993 г. — жыхары Пуэрта-Рыка выказаліся ў рэферэндуме супрць інтэграцыі іх дзяржавы са ЗША.

**15 лістапада**

1670 г. — памёр Ян Коменскі, чэшскі вучоны.

1738 г. — нар. Фрыдрых Гершэль, англійска-нямецкі астраном.

1916 г. — памёр Генрык Сянкевіч, польскі пісьменнік.

1917 г. — Фінляндыя аб'явіла незалежнасць.

1920 г. — першае пасяджэнне Лігі Нацый у Жэневе; удзельнічалі прадстаўнікі 45 дзяржаў.

1981 г. — у Мадрыдзе дэманстравала паўмільёна чалавек супраць уступлення Іспаніі ў НАТО.

**16 лістапада**

1717 г. — нар. Жан д'Алембер, французскі вучоны. **(Ш)**

# *Парнасік*

## Ядловец

Ядловец расце, дзе шчыры пясок
І марны лясок.
Яго месца і на пустыні,
І там, дзе красуюцца маліны.
Бывае просты і крывы;
Заўсёды калючы, жывы.
Цвіце і дае ягады,
Якія ратуюць ад хваробы-бяды.
Бо гэта лякарства —
Не марнатраўства.
Ды трэба ўмець гэта зрабіць:
У пасудзіну з ягадамі вадкасць наліць.
Ядловец і карэнні яго
Маюць аматара свайго:
Хто кошыкі робіць-пляце —
Свой карысны занятак вядзе.
Бо кошыкі з ядлоўца найлепшыя:
Прыгожыя і наймацнейшыя.
Дрэва найлепшае на каблукі,
На кулькі да косаў, што робяцца ад рукі;
А таксама на пруткі для драбін.
З ядлоўца добрыя пуга і клін.
Сёння мода дрэўцы садзіць у агародзе,
Хаця ім лепш на свабодзе,
Бо ў свежым месцы не вельмі прымаецца,
Хаця часта і вадою паліваецца.
Пераважна ядловец расце стройна,
Што не выказаць слоўна.
Густы, заўсёды зялёны;
Калючкі — яго абарона.
Прыгожы праз цэлы год —
Ядловец, асаблівы від і род.
Многія лічаць яго паразітам,
Але ён сваім відам
Гэтыя думкі ад сябе адкідае
І абарону сваю апраўдвае:
Дзе нічога не хоча расці,
Туды трэба ядловец увесці,
І ён самастойна там з'явіцца,
Сваімі араматам і красою праславіцца.
А хіба ніхто яму верша не прысвяціў
Каб ён рос і свой век перажыў.

**Мікалай Панфілюк**

## Куранёўка

*Куранёўку* сын дастаў,
Вельмі ж ганарыўся,
Пачаў хадзіць у карчму
Ды п'яніцай зрабіўся.
І хоць ўжо не дастае
Такой дапамогі,
З дому цягне кожны грош
І п'е да знямогі.
Правядзе ля карчмы дзень,
Потым йдзе дахаты,
Маці родную ганяе,
Каб грашэй узяці.
Сын штодзень ідзе ў карчму,
Праклінае матка:
„Распіла ты, *куранёўка*,
Роднае дзіцятка!"

**Мікалай Лук'янюк**

## Песня

Паблагаславі Божа
З высокага неба,
Каб краіне нашай
Не забракла хлеба.
Каб ставала хлеба,
Каралёў хапала
І матуля наша
Ў памяці астала.

**Мар'я Пень**

# МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні на пабудову музея (у польскай і замежнай валютах) просім пералічваць на рахунак: **PKO BP Oddział w Hajnówce, nr konta: 5627-5454-132.**

Жыхары Беларусі могуць уплачваць ахвяраванні на рахунак **141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Менска.**

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў:**

4 655. Ян Хіліманюк (Гайнаўка) ........ 12,00 зл.
4 656. Люба Гаўрылюк (Беласток) ........ 11,50 зл.
4 657. Сцяпан Копа (Беласток) ........ 20,00 зл.
4 658. Анджэй Волчак (Ляска) ........ 20,00 зл.
4 659. Яўген Чыквін (Беласток) ........ 30,00 зл.
4 660. Мікола Гайдук (Беласток) ........ 12,00 зл.
4 661. Аляксей Семянюк (Белавежа) ........ 12,00 зл.
4 662. Аляксандр Лаўрыновіч (Гайнаўка) ........ 12,00 зл.
4 663. Ян Сухадола (Гайнаўка) ........ 30,00 зл.
4 664. Аляксандр Іванюк (Гайнаўка) ........ 10,00 зл.
4 665. Ян Якімюк (Гайнаўка) ........ 20,00 зл.
4 666. Ніна Мартыновіч (Орля) ........ 10,00 зл.
4 667. Анатоль Мартыновіч (Орля) ........ 10,00 зл.
4 668. Аляксандр Бандарук (Гайнаўка) ........ 12,00 зл.
4 669. Ян Сычэўскі (Беласток) ........ 20,00 зл.
4 670. Уладзімір Суліма (Гайнаўка) ........ 12,00 зл.
4 671. Анастасія Цімашук (Гайнаўка) ........ 12,00 зл.

**Дзякуем.**

Наш адрас: Społeczny Komitet Budowy Muzeum i Ośrodka Kultury Białoruskiej, 17-200 Hajnówka, ul. 3 Maja 42, tel. (0-835) 30-16.

# ВЕР — НЕ ВЕР

Астроне! Сніцца мне, што я зайшла ў краму. А там за прылаўкам — былая прадаўшчыца (яна ўжо не жыве). Я купляю штосьці на мярліны. Маю астацца ў хаце, каб падрыхтаваць трызну. Але выходжу з тае вёскі, бачу, усе пайшлі ўжо ў царкву, а на дарозе стаіць скрынка, памаляваная, не вельмі вялікая, не ў форме труны. Ведаю, што там ёсць нейкае цела. Пхаю тую скрынку ў вёску, дзе ёсць царква, а яна пачынае трэсказца. Бачу, што быццам там не чалавек: паказваецца нейкае нясвежае мяса з саланінкай, нейкія ні то кіпцюры, ні то пазногці. Едзе на фурманцы знаёмы, прашу яго, каб падвёз мне гэту скрыню. Ён кажа: „А ці можна мне нешта такое браць на воз?". Ён загружае на фурманку скрыню і мы вязем яе далей. **Зоська**

Зоська! Твой сон вельмі дрэнны. Уся тая падрыхтоўка да пахавання мае кепскія прыкметы. Нават труна не была труною, хаця яе сніць было б добра для маладых і здаровых, толькі для старых яна б абазначала блізкую смерць. Твая труна была нейкай бясформеннай скрынкай, якая на дадатак трэснула і ты — замест нябожчыка — убачыла нясвежае мяса і нейкія кіпцюры.

Тое мяса няўхільна сведчыць аб хваробе (тваёй ці тваіх блізкіх), а кіпцюры могуць прадвяшчаць, што будзеш мець непрыемнасці ад нейкага нядобразычлівага табе чалавека.

Паставілі вы тую скрыню-труну на фурманку і паехалі — усе твае справы будуць выглядаць надта няпэўна.

**Астрон**

# Крыжаванка

**Гарызантальна:** 4.навучанне, адукацыя, 7. нарысаваная выява, рэпрадукцыя, 8. неруш, 9. выклікаюць здзіўленне, 10. лекар-самавук, 14. казацкі камандзір, 18. водаправод у выглядзе моста, 19. расстаноўка людзей па росту ў адну шарэнгу, 20. хімічны элемент H, 21. „трэці Рым".

**Вертыкальна:** 1. горад над Нёманам, 2. гаварыла з Валаамам, 3. дзяржава ў Пірэнеях, 4. від падатку за продаж тавараў, які ўключаецца ў іх цану, 5. магутная еўрапейская рака, 6. аргенцінскі танец, 11. „атамны" штат у ЗША, 12. перасяленне першых мусульман з Мекі ў Медыну ў 622 г., 13. дарога паралельная лініі фронту, 15. шлях, 16. вясковец, земляроб, 17. правы прыток Віслы. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 38 н-ра:**

**Гарызантальна:** Ікар, саган, атрута, урад, парог, навела, вантроба, колас, батрачка, нашчадак, Нітра, патыліца, Бухара, Арыка, вада, Нэруда, пажар, рука.

**Вертыкальна:** малако, карова, Курытыба, радно, трава, столь, гаспадар, абаронца, конь, лешч, учот, лаза. акалодак, Іардан, рэктар, Нурэц, парус, тавар.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Мікалаю Сазановічу** з Навінаў-Вялікіх і **Міхалу Байко** з Беластока.



**„Niwa"**

ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435-022.

Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata.**

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1997 r. upływa 5 grudnia 1996 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na I kwartał wynosi 13 zł (130 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,75 zł (17 500 starych zł), a kwartalnie — 22,75 zł (227 500 starych zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-2700-1-08.

# Пародыі

**Бабнік баабаб**

*А калі ўжо будзе трэба*
*баабабам я астануся...*

*Юрка Баена*

Стаў я баабабам
І расту да неба,
Мне не трэба бабы —
Ласкі мне не трэба.
Прагну я бярозы,
Вольхі і сасны,
Лью на іх я слёзы,
Сню пра іх я сны.
А яны, як людзі,
Між сабой гамоняць.
Што са мною будзе?
Ў Афрыку пагоняць?..
Бедны баабаб я
З чалавечым сэрцам...
З бабаю гарачай
Афрыка здаецца.

**Сяргей Чыгрын**

# Рыбакі

Сядзяць над берагам ракі
Ціха, спакойна, рыбакі
І скіравалі яны зрок
На свой паказчык — паплавок.

Яны ціхенька злуюцца,
Чаму рыбкі не бяруцца,
Нават не дрогне паплавок,
Каб падсячы што на кручок.

Рыбка любіць дзе глыбока,
Як далей людскога вока,
А каб яе неяк спаймаць,
Норавы рыбкі трэба знаць.

Не кожны можа апісаць
І дзівы рыбакоў сказаць:
Ловім рыбу такой меры...
Толькі ў гэтым мала веры.

**Ю. В-скі**




*Мал. В. Кліменкі*

# Ніўка




*Мал. Л. Гадуна*

# Абсурдэлькі

**Яма**

На тратуары ляжаў чалавек і крычаў:

— Я — яма! Я — яма!

А таму, што ён ляжаў вельмі хітра — на самым звужэнні, — вакол сабраўся натоўп, які ўголас шаптаў пра міліцыю, „хуткую дапамогу", рост цэнаў, неверагодны выпадак з асфальтавым вынікам у пад'ездзе № 5 дома № 8 і чужаў сціплыя патыліцы.

— Слухайце, я ж невялікая яма! — гучна падказаў чалавек.

Тады два-тры самыя адчайныя смельчакі асцярожна наблізіліся і пераступілі яго туды-сюды пару разоў...

Натоўп змоўк, пераглянуўся і ў поўным складзе таксама пераступіў яго туды-сюды.

„Вось так, я сапраўды нядрэнная яміна, — з гонарам падумаў чалавек. — Эх, каб яшчэ нехта ў мяне ўваліўся!"

**Шына**

Зношаную шыну знялі з кола аўтамабіля і кінулі ля адхону. Ёй было так цяжка адчуваць сябе нікому непатрэбнай, слабой. Яна прывыкла заўсёды круціцца, праўда, ёй здавалася, што гэта ўвесь свет круціцца вакол яе.

А цяпер нерухомасць.

„Эхе, старасць, — думала шына. — Хутчэй бы ў дом састарэлых на гарадской звалцы, там хоць пагаварыць з кім ёсць, пахваліцца і палаяцца, і, можа, не такі ржавы вобад знойдзецца".

Але ніхто яе не забіраў. Яна праляжала на абочыне ўсю восень, зіму, а вясной заўважыла, як з зямлі каля яе прабіваецца парастак каштана. Яна так яму ўзрадавалася! Ахоўваючы парастак ад сібернага ветру, збірала пад сабой вільгаць, каб напаіць яго ў спёку.

І калі яна пачала ўжо цвёрда лічыць сябе маці-клумбай, з'явіліся прыбіральшчыкі і кінулі яе ў брудны кузаў.

„Заўсёды так, — уздыхнула старая шына, — варта толькі адчуць сябе не смеццем, як цябе адразу адвозяць на звалку".

**Сяржук Мінскевіч**

# „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

— Скажы, Коля, як гэта ў цябе ёсць: хаця вечна сварышся з жонкай, чаму заўсёды хваліш цешчу?

— Бо яна ўвесь час была супраць нашага шлюбу.

* * *

Дзяўчына з багатай сям'і хоча выйсці замуж за гультаяватага гальша.

— Не можам дапусціць да гэтага, — гаворыць бацька дзяўчыны жонцы. — Трэба ёй сказаць, што калі выйдзе за гэтага лодыра замуж, не атрымае ад нас ні капейкі.

— Я зрабіла лепш, — кажа жонка. — Сказала пра гэта яму.

* * *

Міхась, выходзячы з каморы, пытае жонку:

— Дзе наша старая піла?

Пачула гэта цешча:

— Можа і піла, але яшчэ я не такая старая.

* * *

— Як паводзіць сябе твая цешча?

— Як „Ніва".

— ???

— Усё знае і ведае ды паяўляецца раз у тыдзень.

* * *

— Добры дзень! — вітаецца цешча, ступаючы цераз парог з чамаданам у руцэ. — Пабуду ў вас нейкі час.

— Ці мама надоўга? — пытае зяць.

— Аж вам абрыдну, — жартуе цешча.

— Як жа так! Дык мамачка нават чаю не nап'еццa?!

* * *

— Ці бабулька ўжо ад'язджае? — пытае малы ўнучак, бачучы, што бабуля пакуе чамаданы.

— Ад'язджаю сёння, даражэнькі.

— Нічога не разумею: учора татка гаварыў, што хіба ніколі ад нас не ад'едзеш...

* * *

Закаханы хлопец звяртаецца да свае дзяўчыны:

— Запрапанаваў бы табе руку і сэрца, але баюся, што можа ўвайсці твая мама.

— Не бойся: мамачка ў такіх сітуацыях ніколі не перашкаджае.

# Сардэчныя тайны

Даражэнькае Сэрцайка! Калі я была дзяўчынай, усё было такое светлае, такое сонечнае і харошае. Я думала, што такое будзе ўсё маё жыццё.

Выхоўваліся мы з братам у так званым добрым доме — такім, дзе ўсё трывалае, уключна з пачуццямі. Крыху хвалявалася я, які будзе мой муж, ці і ён будзе такі добры і чулліві, як мой бацька, ці і ў маёй сям'і ўсе будуць кахаць адзін другога.

Пяць гадоў таму я выйшла замуж за хлопца настолькі прыгожага, што мог бы быць акцёрам. Закахаexiste ў яго па вушы, я нават не думала, які ён будзе ў сям'і. Уяві сабе, мне пашанцавала. Муж даслоўна насіў мяне на руках. Кахаў, ласкаў, цалаваў на кожным кроку, памагаў у хаце. Усюды мы бывалі, бо нас часта запрашалі, але няредка і мы прымалі гасцей. Хадзілі на танцы, бывалі і ў дыскатэках. Адным словам, жыць і не ўміраць.

І раптам я сцвердзіла, што зацяжарыла. Колькі было радасці ў хаце! Цешылася ўся наша сям'я.

Мы ўжо жылі ва ўласнай кватэры. Пачалі хадзіць па крамах, шукаючы рэчаў, патрэбных будучаму дзіцяці. Паставілі ў нашай спальні дзіцячы ложак. Чакалі з нецярплівасцю нашага сына.

І сын нарадзіўся, а я адчувала сябе так, быццам нада мною трэснула неба. Дзіця было хворае на дзіцячы параліч. Ужо яму было больш года, а яно яшчэ не хадзіла, нават не сядзела, не гаварыла, на твары была дзіўная міміка.

Спачатку я думала, што заб'ю, даруй мне, Божа, тое няшчаснае дзіця і сябе. Як у жыцці ўсё можа змяніцца... Але ўзяла сябе ў рукі і вырашыла, што я ўжо дастаткова нагулялася і пажыла шчасліва. Цяпер прыйшла пара аддаваць даўгі.

І я вырашыла прысвяціць усе свае сілы, сваю волю майму дзіцяці. Вядома, кінула прафесійную, даволі добра платную працу. Але ж працаваў мой муж, дапамагалі бацькі. Я рабіла з дзіцём усё, што казалі лекары, а да таго штодзень прыходзілі масажысты і працаўнікі аддзела рэабілітацыі, якія масавалі і гімнастыкавалі дзіця. Цяпер, напрыклад, робяць яму масаж твару.

Я вельмі прыбітая, але не здаюся і бачу, што дзіцяці як бы палепшала, а я веру, што ўсё будзе добра. Але, Сэрцайка, ці ты не думаеш, што пара нам падумаць пра другое дзіця? Можа яно народзіцца здаровенькае — і ў нашай хаце засвеціць ізноў сонейка... Але вельмі баюся, што пакрыўджу гэтым свайго хворага сыночка, якому ўжо не змагу прысвячаць аж столькі ўвагі. Я ўсё адчуваю сябе перад ім і мужам вінаватай, але што зробіш... Дык як ты параіш?

**Тацяна**

Не твая гэта віна, Тацяна, гэта лёс быў у адносінах да вас такі жорсткі. Ты — малайчына, што ўзяла сябе ў рукі і рашыла даць усё свайму малому. Ведаю такіх, што аддаюць, доўга не думаючы, хворых дзетак у бальніцы, ці прытулкі, дзе даглядаюць іх манашкі. Ты ўзяла гэты цяжар — фізічны, але перш за ўсё псіхічны — на сябе і кланяюся табе за гэта.

Адна жанчына калісь пісала мне, што пастаралася адразу (у яе здарыўся падобны выпадак) нарадзіць другое дзіця, каб хаця крыху спазнаць радасць мацярынства. На жаль, калі памерлі яе бацькі, што апекаваліся хворым дзіцём, яна была вымушана аддаць яго ў прытулак, бо лічыла, што яно кепска ўздзейнічае на здаровае, якое таксама пачынала рабіць дзіўныя міны і дзіўна гаварыла. І цяпер яна практычна мае адно дзіця, бо другое выхоўваюць манашкі. Але мо яму там — сярод падобных сабе — і лепш...

Я разумею твой боль і ахвоту нарадзіць другое дзіця. Напэўна, будзе яно здаровае. Але, мо лепш пачакаць, ты ж, напэўна, яшчэ маладая. Мо больш часу і энергіі зможаш прысвяціць яшчэ хвораму сыночку, а ён стане калісь на свае кволыя ножкі і скажа: „Дзякуй, мама!"

**Сэрцайка**